ДЫЯЛОГІ АБ ВЕЧНЫМ
АЙЦЕЦ ЛАТУШКА ПРА ДВУХАДЗІНУЮ ЗАПАВЕДЗЬ ЛЮБОВІ
Стар. 4.

БЕЛАРУСКАЯ МОВА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ?
Стар. 3.

СВОЙ ПОГЛЯД
Ефрасінні АНДРЭЕВАЙ
Стар. 4—5.



"Пракорам не пазбавіц-ца пакут сваёй Айчыны"
(З новых вершаў Алены ЯСКЕВІЧ)
Стар. 7.

РАДАВОД
ШЛЯХТА АДРАДЖАЕ ГОДНАСЦЬ СВАЙГО НАРОДА.
Стар. 5.



СКАНДАЛ. "БЕРКУТЫ" Анатоля СІЛІВОНЧЫКА ШАКІРАВАЛІ ЎСЮ КРАІНУ
Стар. 2—3.

СПОРТ
ВОДНАЛЫЖНЫ КЛУБ "АЛІМПІЯ" — "КАЛЫСКА" СУСВЕТНАЙ ЗОРКІ ВОДНАГА ФІГУРНАГА КАТАННЯ АЛЕНЫ МАЗОЎКІ І ІНШЫХ СЛАВУТАСЦЕЙ.
Стар. 2.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

5 жніўня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 31

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

ФЕСТЫВАЛЬ



Фота БелТА.


Жэлька ЁКСІМАВІЧ.


У час свята.


Ірына ДАРАФЕЕВА.

У тым, што Гран-пры са "Славянскага базару ў Віцебску" сёлета паедзе ў Югаславію, можна было не сумнявацца з самага пачатку. Жэлька Ёксімавіч, ужо вядомы ў Беларусі, восенню стаў пераможцам на магілёўскім "Залатым шлягеры", дарэчы, тады апярэдзіў нашу Ірыну Дарафееву. Іх саперніцтва захавалася і ў Віцебску. Аднак Іра зноў прапусціла яго наперад, заваяваўшы першую прэмію. Песня Уладзіміра Далгалёва на словы Уладзіміра Пецюкевіча "Балада", якую Дарафеева выканала ў першы дзень, прысвечана летапісным падзеям на Нямізе. Песня прыгожая, і, трэба думаць, яна будзе часта гучаць у нашай краіне.

Сёлета ўзровень канкурсантаў быў вельмі высокім. Прыемна, што конкурс, які праходзіць на беларускай зямлі, з кожным годам набірае моц, а значыць і прэстыж.

Другую прэмію падзялілі Яўгенія Чобіч з Украіны і спявачка Караліна з Македоніі. Трэцяя таксама была прысуджана адразу дзвюм дзяўчынам: Касі Станкевіч з Польшчы і Дзіяне Гурцкая, якая прадстаўляла Расію. Сляпая дзяўчына на сцэне кранула і віцебскую публіку, і журы. Грузінка па паходжанню, яна зараз вельмі ўдала супрацоўнічае з Ігарам Нікалаевым: менавіта яго песня "Ты тут", якая настойліва "раскручваецца" расійскімі тэлеканаламі, спадабалася публіцы. Але паважаць Дзіяну варта яшчэ і за самакрытычнасць — дзяўчына адмовілася ад сваёй часткі прэміі на карысць спявачкі з Польшчы.

ЛІРЫЧНЫ НАСТРОЙ

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

**Ноч маланкамі**
**зіхаціць,**
**пахне верасам**
**па лясах...**
**Вельмі хутка**
**лета ляціць...**
**А чаму?**
**Не ведаю сам.**
**Мо таму,**
**што доўга чакаў,**
**мо таму,**
**што штосьці шукаў!**
**Ад мінулага**
**ўсё ўцякаў...**
**Аднаго сябе**
**ашукаў...**
**Аб адным**
**даведаўся сам —**
**што за ўсё**
**патрэбна плаціць...**
**Пахне верасам**
**па лясах...**
**І так хутка**
**лета ляціць...**

АНОНС

**Міхась СКОБЛА** вядомы як паэт і вядучы літаратурнай перадачы "Вольная студыя" на радыё. Неўзабаве ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выходзіць новая ягоная кніга "**Дзярэчынскі дыярыюш**", у якую ўвайшлі гістарычны нарыс, літаратурныя эсэ. На прыкладзе свайго роднага мястэчка Дзярэчын аўтар паказвае, наколькі багатым з матэрыяльнага і духоўнага боку было жыццё беларускіх паселішчаў. У XVIII стагоддзі ў Дзярэчынскім тэатры ставіліся класічныя оперы, функцыяніравала вайсковая акадэмія, была вялікая калекцыя старадрукаў, шэдэўраў жывапісу ды іншых твораў мастацтва, канфіскаваных дарэшты пасля паўстання 1830—1831 гадоў. Пры напісанні "Дзярэчынскага дыярыюша" шырока выкарыстаныя унікальныя матэрыялы з архіваў Гародні, Варшавы і Санкт-Пецярбурга. У наступных нумарах увазе чытачоў будуць прапанаваны ўрыўкі з гэтай кнігі.

НАПЯРЭДАДНІ

## МІНІСТЭРСТВА СУВЯЗІ ПЛАНУЕ ПРЫНЯЦЬ РАШЭННЕ ПА ПРАЕКТУ БУДАЎНІЦТВА ТЕЛЕВЕЖЫ Ў МІНСКУ.

Міністэрства сувязі Беларусі плануе прыняць рашэнне па праекту будаўніцтва тэлевежы ў Мінску, паведаміў на прэс-канферэнцыі міністр сувязі рэспублікі Уладзімір Ганчарэнка. Па яго словах, кошт будаўніцтва тэлевежы з усімі тэхналогіямі складае 108 мільёнаў долараў ЗША. Мінсувязь цяпер не мае столькі ўласных сродкаў на рэалізацыю гэтага праекта. Для будаўніцтва тэлевежы неабходныя інвестыцыі, таму цяпер і вядзецца пошук інвестара, растлумачыў У. Ганчарэнка. Міністэрства сувязі таксама будзе фінансаваць гэты праект. Акрамя таго, плануецца выдзяленне сродкаў з бюджэту. Будаўніцтва новай тэлевежы неабходна, падкрэсліў У. Ганчарэнка, таму што магутнасці тэлевежы ў Калодзішчах задзейнічаны поўнасцю.

Па словах міністра сувязі, праект будаўніцтва тэлевежы распрацаваны беларускім інстытутам "Белпраект" сумесна з расійскімі калегамі. "Гэта арыгінальнае архітэктурнае збудаванне, у якім на адзнаках 62 метры і 220 метраў спраектаваны назіральныя пляцоўкі, рэстараны і іншыя аб'екты", — адзначыў У. Ганчарэнка. Па яго словах, ужо многія гатовы арэндаваць гэтыя памяшканні, але спачатку трэба знайсці сродкі на будаўніцтва самога аб'екта.

Міністэрства сувязі ў пачатку снежня 1997 года правяло тэндэр на выбар падрадчыка на праектаванне і будаўніцтва тэлевізійнай вежы ў Мінску, у якім удзельнічала шэсць кампаній: кансорцыум ГП "Белбудэкспарт" сумесна з "Белпраектам" (Беларусь) і ГСПІ РТВ (Расія), Усходнекітайскі інстытут праектавання і дызайну (Кітай), кансорцыум-карпарацыя "Укрмантажспецбуд" (Украіна) і "Гандлёвы Дом "ЛУКойл" (Беларусь), кампанія "Вайс Унд Фрайтаг" (Германія), фірма "Мастарэз" (Чэхія), фірма "Тадзіні Канструкцьоні Джэнералі" (Італія). Згодна з заключэннем тэндэрнай камісіі ніхто з удзельнікаў тэндэра не выканаў у поўнай меры патрабаванні беларускага боку.

РЭХА МІНУЛАГА

### ПАВАЖАНЫ РЭДАКТАР!

Даводзім да вашага ведама, што ахвяры нацысцкіх ганенняў або іх наследнікі ў Беларусі ўжо ў наступным годзе змогуць атрымаць частку грошай з 1,25 мільярда долараў ад швейцарскіх банкаў і іншых арганізацый праз судовыя слуханні. Ахвяры Халакоста пачалі судовы працэс, абвінавачваючы швейцарскія кампаніі і арганізацыі ў незаконных прыбытках, атрыманых шляхам выкарыстання на прымусовых работах яўрэяў, цыганоў, гомасексуалістаў, членаў груп "Сведкі Іеговы", а таксама фізічна і разумова адсталых людзей у час другой сусветнай вайны.

Высылаем вам прэс-рэліз, кароткую форму паведамлення для ахвяр Халакоста і выказванні адвакатаў, якія займаюцца гэтай справай. Просім вас апублікаваць матэрыял "Ахвяры Халакоста атрымаюць кампенсацыю" з мэтай інфармавання насельніцтва аб гэтай судовай справе і аб правах ахвяр Халакоста і іх наследнікаў.

Прэзідэнт Беларускага аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і суполак **Л. ЛЕВІН.**

# АХВЯРЫ ХАЛАКОСТА АТРЫМАЮЦЬ КАМПЕНСАЦЫЮ

Швейцарскія банкі згадзіліся выплаціць кампенсацыю ў суме 1,25 мільярда долараў ахвярам нацысцкіх ганенняў і іх наследнікам у парадку задавальнення юрыдычных прэтэнзій у адносінах дзейнасці швейцарскіх банкаў, фірм і швейцарскага ўрада (далей "Швейцарскія юрыдычныя асобы") у гады другой сусветнай вайны.

29 лістапада 1999 года ў акруговым судзе Усходняй акругі Нью-Йорка адбудзецца слуханне аб канчатковым зацвярджэнні маючага быць Пагаднення.

Адпаведна Пагадненню кампенсацыя будзе выплачвацца асобам (або іх наследнікам), што з'яўляюцца "ахвярамі або аб'ектамі нацысцкіх ганенняў" і падзяляюцца на пяць катэгорый. Да першых чатырох катэгорый адносяцца асобы, фірмы або групы, якія сталі ахвярамі ці аб'ектамі ганенняў нацысцкага рэжыму або яго агентаў па прычыне таго, што яны былі ці лічыліся яўрэямі, цыганамі, гомасексуалістамі, членамі груп "Сведкі Іеговы", фізічна ці разумова адсталымі людзьмі, інвалідамі і мелі ўклады ў швейцарскіх банках ці іншых ашчадных установах у перыяд да 9 мая 1945 года, былі заняты на прымусовых работах, што выконваліся для арганізацый, якія маглі ўкладваць атрыманыя даходы ў швейцарскія банкі. Да пятай катэгорыі адносяцца любыя асобы (або іх нашчадкі), якія выкарыстоўваліся на прымусовых работах на любых аб'ектах, незалежна ад іх месцазнаходжання, што належалі ці знаходзіліся пад кантролем любой Швейцарскай юрыдычнай асобы.

Ахвяры Халакоста і іх наследнікі могуць атрымаць інфармацыю аб сваіх правах па гэтаму Пагадненню шляхам атрымання паштовага паведамлення, якое ўключае юрыдычнае паведамленне і першапачатковую іскавую анкету, напісаўшы па адрасу: Расія, 101000 Масква, галоўпаштамт, а/я 2049, Справа аб маёмасці ахвяр Халакоста. Вусную інфармацыю можна атрымаць, пазваніўшы бясплатна па тэлефоне: 8 (гудок) 10-800-114 (гудок) 626 — для Магілёва і Гомеля; 8 (гудок) 800-114 (гудок) 626 — для Віцебска, Гродна і Брэста, або наведаўшы старонку ў Інтэрнеце па адрасу:

http: // www. swissbanklaims. com

СПОРТ

Беларускі водналыжны клуб "Алімпія", які ўзначальвае знакаміты трэнер Віктар Наважылаў, мае шырокую вядомасць.

Выхаванцы клуба неаднаразова станавіліся прызёрамі чэмпіянатаў свету, пераможцамі першынстваў Еўропы і іншых буйных міжнародных турніраў. Імёны беларускіх воднalыжнікаў Інесы Потэс, Марыны Амяльянчык, Алены Мазоўкі, Аляксандра Мінянка, Алесі Паўлавай, Юліі Грамыка вядомы аматарам воднalыжнага спорту ва ўсім свеце.

На вадасховішчы Пціч, дзе размешчана база беларускіх воднalыжнікаў, ідуць трэніроўкі, дзе дзеці рыхтуюцца да новых міжнародных стартаў і першынства нашай краіны.

НА ЗДЫМКАХ: юныя воднalыжнікі выязджаюць на чарговую трэніроўку; неаднаразовы чэмпіён Еўропы, адзін з мацнейшых беларускіх воднalыжнікаў Аляксандр МІНЯНОК выконвае сальта на лыжах.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Адна з вялікіх суполак беларусаў Літвы — Таварыства беларускай культуры (ТБК) 10 ліпеня адзначала 10-годдзе сваёй дзейнасці. На імпрэзу, прысвечаную гэтай даце, прыехалі запрошаныя госці з Беларусі, Польшчы, Літвы, сябры таварыства.

У зале, упрыгожанай творамі мастакоў А. Аблажэя, Крысціны і Андрэя Балаховічаў, старшыня ТБК спадар Нюнька распавядаў пра дзейнасць ТБК, якая была створана адной з першых суполак у незалежнай Літве і адразу ж спрычынілася і да адкрыцця беларускай школы ў Вільні, і да заснавання кафедры беларусістыкі ў педуніверсітэце, да выдання газет і кніг. Зроблена нямала — адчынены шыльды ў гонар вядомых беларусаў у Вільні (Тарашкевіча, Шырмы, Каліноўскага, Скарыны, Я. Купалы, П. Сергіевіча, Ластоўскага), пастаўлены помнікі Л. Каралю, Дубейкаўскаму. Арганізуюцца штомесячныя сустрэчы з дзеячамі культуры, літаратуры, мастацтва, артыстамі з Беларусі.

Робяцца вялікія намаганні па аднаўленню дзейнасці беларускага музея братоў Луцкевічаў у Вільні, зачыненага ў пасляваенныя гады, музея Якуба Коласа, які калісь жыў у Новай Вільні. Экспанаты музея Луцкевічаў раскіданы па розных музеях розных краін, але большасць з іх знаходзіцца і цяпер у Літве (у Нацыянальным музеі), а экспанаты музея Коласа — у Маркучай, дзе заснаваны музей А. С. Пушкіна ў доме яго сына і нявесткі.

Беларусы Літвы спадзяюцца, што названыя два музеі будуць адчынены і гэтая падзея толькі ўзмоцніць сяброўства двух народаў, якія калісь жылі ў адной вялікай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім.

Сябра літоўскага сейма спадар Р. Озалас і старшыня дэпартамента нацменшасцяў Літвы Р. Мотузас адзначылі дзейнасць ТБК, гаварылі аб інтэграцыі беларусаў у жыццё дзяржавы.

10 год узначальваў суполку Хведар Нюнька, і ўсе прысутныя пажадалі бачыць яго старшынёй ТБК і надалей.

**Павел САЎЧАНКА.**
Вільня. Літва.

СКАНДАЛ

# Справа СІЛІВОНЧЫКА

Імя Анатоля Сілівончыка, бізнесоўца з Сургута, і да апошняга часу было адным з найвядомых сярод беларускай дыяспары. Цяпер жа, пасля нядаўняга здарэння на Светлагоршчыне, гучная слава ператварылася ў скандальную. Вось ужо сапраўды шляхі Гасподнія непрадказальныя, а мудрасць народная, даўным-даўно выказаная ў прымаўцы "ад астрогу няма перасцярогу", застаецца актуальнай для ўсіх.

Чытачам, да якіх яшчэ не дайшлі чуткі пра падзеі, што адбыліся ў Беларусі і абудзілі шэраг публікацый як у дзяржаўных, так і апазіцыйных сродках масавай інфармацыі, нагадаю: гаворка ідзе пра тое, як група выхаванцаў дзіцяча-юнацкай школы выжывання "Беркут", удзельнікаў афганскай і чачэнскай войнаў ды ветэранаў Вялікай Айчыннай, пераадолеўшы на аўтобусах тысячы кіламетраў з Сібіры, атабарыліся ў лесе непадалёку ад горада Светлагорска, Гомельскай вобласці, а потым рушылі да вёскі Мікалаеўка, дзе ўчынілі здзек над жыхарамі, зняваγу над уладамі, у тым ліку і глумленне над цяперашнім дзяржаўным сімвалам. Карацей, сярод белага дня адбылося штосьці для нашага часу неверагоднае. З Мікалаеўкі акрыленае лёгкай перамогай фарміраванне рушыла на Бабруйск, аднак штурмам браць досыць моцны вайсковы гарнізон не давялося: іх гасцінна прынялі ў казармах. Між тым, звесткі пра тое, што адбылося ў Мікалаеўцы, змусілі ахоўнікаў правапарадку дзейнічаць не зусім у традыцыях славутай беларускай гасціннасці, рахманасці, памяркоўнасці і талерантнасці. Да годнасці АМАПу, аперацыя была праведзена бліскуча: некалькі дзесяткаў беларускіх ваяроў паклалі ніц каля паўтары сотні "гасцей" з Сібіры, пасля чаго баявы дух апошніх раптоўна спустошыўся.

У сувязі з усёй гэтай жудаснай скандальнай гісторыяй узнікае маса пытанняў, якія ўжо неаднаразова гучалі са старонак газет: як сталася, што ваенізаваны атрад з Сібіры пранікае на тэрыторыю незалежнай Беларусі і ўчыняе глумленне над святая святых: годнасцю і свабодай нічым не вінаватых людзей, беспакарана бэсціць сімвалы дзяржаўнасці? Беспакарана, бо ўвесь атрад быў пасаджаны ў аўтобусы і дэпартаваны за межы Беларусі. Апрача Анатоля Сілівончыка. Выходзіць, гэта ён адзін клаў у прагорклы радыяцыйны пыл сваіх землякоў, даваў кухталёў старым і малым, вытвараў усё іншае, што расказвалася ў газетах пад рубрыкай "Жудасць"?

Адразу яму прад'явілі абвінавачанне па артыкуле крымінальнага кодэкса "злоснае хуліганства". Але прагляд відэазапісу "баявых подзвігаў", увекавечаных тымі ж "беркутаўцамі" на відэастужку, канфіскаваную амапаўцамі, не выявіў у дачыненні да А. Сілівончыка таго, што называецца мардабоем, ці, кажучы мякчэй, рукапрыкладства. Тады яму інкрымінавалі "арганізацыю масавых беспарадкаў", што, наколькі вядома, застаецца ў сіле і на момант напісання гэтага матэрыялу. Калі так, значыць, гэта ён, Анатоль Сілівончык, арганізаваў і ўзначаліў увесь зводны "атрад" і стаў яго "вярхоўным" камандзірам у час усіх дзеянняў. Да такой версіі, як гэта ні сумна і ні дзіўна, схіляюцца і аўтары амаль усіх публікацый у беларускім друку, дзе "крайнім" і адказным за ўсё зроблены Анатоль Сілівончык. Ужыў я словы "сумна" і "дзіўна" вось па якіх прычынах: сумна, бо, перш за ўсё, накінуліся нашы "браткі беларусы" на свайго ж суродзіча. Дзіўна, бо журналісты проста паленаваліся ці палічылі непатрэбным пацікавіцца, ці сапраўды А. Сілівончык з'яўляецца арганізатарам бясслаўнага паходу, ці ўсё ж юрыдычную адказнасць, а адпаведна і віну, павінен несці хтосьці іншы?..

Невялікі росшук у гэтым накірунку даў адпаведны вынік. Перада мною дакументы. Называю іх на мове арыгінала: 1. Программа проведения в Республике Беларусь в период с 25.06.99 по 05.07.99 Акции "Памяти воинам-освободителям, посвященной 55-летию освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков (группой представителей патриотических общественных организаций) г. Сургута: Организация ветеранов войны и труда, ОО "Боевое братство" и ОО "Детско-юношеская школа выживания "Беркут"; 2. Зварот "Межрегионального общественного объединения Фонд "Маршал Жуков" к "Министру обороны Республики Беларусь Генерал-полковнику Чумакову А. П." з просьбай аказаць спрыянне ў правядзенні запланаваных мерапрыемстваў, па пунктах распісаны "маршрут выдвижения роты из г. Сургута в район г. Светлогорска Республики Беларусь", падпісаны кіраўнікамі трох згаданых напачатку арганізацый: а) председатель Совета ветеранов войны и труда А. Н. Сибирцев, б) председатель ОО "Боевое братство" В. А. Тюленев, в) председатель ОО детско-юношеская школа выживания "Беркут" Р. А. Вышкурцев. Менавіта тры пералічаныя расійскія грамадскія арганізацыі ў асобах іх кіраўнікоў і нясуць адказнасць за ўсё вытваранае на беларускай зямлі. З беларускага боку, апрача названых высокіх ведамстваў, адказнасць кладзецца, само сабой, і на мясцовыя ўлады, бо яны ж, па логіцы рэчаў, павінны былі быць пра ўсё інфармаванымі. Але пісьмовых дакументаў, прынамсі ў мяне, няма.

Дык якая ж роля і віна Анатоля Сілівончыка? Безумоўна, калі выявіцца, што ён парушаў закон Рэспублікі Беларусь, то павінен несці адказнасць у адпаведнасці з законам, але не адзін, а разам з усімі тымі, чыя віна, нават і без следства, — відавочная. Маю на ўвазе не толькі юрыдычных арганізатараў, але і непасрэдных фізічных выканаўцаў, злачынныя дзеянні якіх зафіксаваныя на той жа "беркутаўскай" відэастужцы. Але ж пайдзі, знайдзі і выкалупай іх з таго далёкага расійскага Сургута! — чуецца мне скептычны выгук-адказ. Але гэта, прабачце, ужо кампетэнцыя праваахоўных органаў.

Але адна справа — адказнасць юрыдычная, прававая, іншая — маральная. І трэба быць ці няўцямным ад нараджэння, ці прытварыцца такім, каб не бачыць маральнай адказнасці Анатоля Сілівончыка за ўсё, што адбылося. Бо менавіта ён з'яўляецца фундатарам "Беркута" ў Сургуце, а заадно і фундатарам усяго бясслаўнага паходу з Сібіры ў Беларусь. І гэта зрабіў той самы



БІЗНЕС-КЛУБ

**РАЗВІЦЦЁ ВЫТВОРЧАЙ БАЗЫ ПА ВЫПУСКУ ЦЭЛЮЛОЗАЎТРЫМЛІВАЮЧЫХ ПАЎФАБРЫКАТАЎ ДАЗВОЛІЦЬ СКАРАЦІЦЬ ДА МІНІМУМУ ІМПАРТ ЦЭЛЮЛОЗЫ, ПАПЕРЫ, КАРДОНУ І ВЫРАБАЎ З ЯГО Ў РЭСПУБЛІКУ.**

Па словах спецыялістаў Мінлясгаса, у структуры імпарту лесапрадукцыі летась у коштавым выяўленні дамініравалі тавары цэлюлозна-папяровай прамысловасці, на долю якіх прыпала 77,8 працэнта аб'ёму імпарту гэтай прадукцыі. У агульнай структуры імпарту лесапрадукцыі пераважаюць папера і кардон немелаваныя (20,2 працэнта), цэлюлоза і іншыя цэлюлозаўтрымліваючыя паўфабрыкаты (10,3 працэнта), мэбля (10,3 працэнта), тара з паперы і кардону (6,4 працэнта), папера і кардон мелаваныя (5 працэнтаў), папера газетная (4,9 працэнта).

На думку спецыялістаў Мінлясгаса, галоўнай прычынай крызісу ў айчыннай цэлюлозна-папяровай прамысловасці з'яўляецца дысбаланс паміж магутнасцямі па выпуску паперы і кардону і магутнасцямі па выпуску сыравіны для іх вырабу — цэлюлозы і драўнянай масы. Гэтыя суадносіны складаюць 5:1.

Цяпер Беларусь імпартуе тавары лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці з 70 краін свету. Найбольшая ўдзельная вага гэтага імпарту прыпадае на Расію — 50,2; Польшчу — 8,1; Германію — 4,9; Украіну — 4,7; Фінляндыю — 2,9; Швейцарыю — 2,7; Італію — 2; Швецыю — 1,8; Літву і Венгрыю — па 1,6 працэнта.

Па словах спецыялістаў Мінлясгаса, летась у Беларусь было ўвезена лесапрадукцыі на суму 242,3 мільёна долараў, ці на 12,5 працэнта больш, чым у 1997 годзе. Найбольш высокія тэмпы прыросту аб'ёму імпарту былі адзначаны з краін далёкага замежжа — на 18,9 працэнта, адкуль было ўвезена лесапрадукцыі на суму 106,13 мільёна долараў ЗША. З агульнага аб'ёму імпарту лесапрадукцыі летась з Расіі было ўвезена прадукцыі на суму 121,65 мільёна долараў, ці на 7,2 працэнта больш, чым у 1997 годзе, з іншых краін СНД — на суму 14,56 мільёна долараў, ці на 6 працэнтаў больш, чым у 1997 годзе.

**АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА "БЕЛМЕДПРЭПАРАТЫ" МІНСКА ВЯДЗЕ РАСПРАЦОЎКУ І КЛІНІЧНЫЯ ВЫПРАБАВАННІ ШЭРАГУ НОВЫХ ЛЕКАВЫХ СРОДКАЎ. ПА СЛОВАХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ ЗАВОДА, ГЭТЫЯ РАБОТЫ ПРАВОДЗЯЦЦА Ў РАМКАХ ВЫКАНАННЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ ПРАГРАМЫ "ЛЕКАВЫЯ СРОДКІ".**

Прадпрыемства распрацоўвае процівірусную мазь бутамінафену для вокавага і вонкавага прымянення, бакталакт на аснове малочнакіслых бактэрый, антыаксідантную меланінавую мазь з фітапратэінавым дзеяннем, кровазамяняльнік новага пакалення латпулін на аснове пулулана, кровезамяняльнік мікрадэз дэзінтаксікацыйнага дзеяння, кардыятропны прэпарат з сакрэту скуры жаб, цыстасатычны прэпарат (ін'екцыйную форму цыклафасфану), міорэлаксанты — дыталоній і дыэтоній, прэпарат для лячэння ВІЧ-інфіцыраваных людзей дзідэзаксіцыцін, процілейкозны прэпарат ціагуанін, процівірусную мазь цыклацытэдзін монафасфат, прэпарат для лячэння рассеянага склерозу і лейкеміі кладрыбін, процілейкемічны і проціпухлінны прэпарат на аснове N-гідраксімачавіны.

ААТ "Белмедпрэпараты" ў бягучым годзе пачало вытворчасць дзевяці новых гатовых лекавых форм медыцынскіх прэпаратаў. Летась завод укараніў у вытворчасць 32 віды новай прадукцыі, у тым ліку 25 гатовых лекавых форм медыцынскіх прэпаратаў.

Наменклатура прадукцыі ААТ "Белмедпрэпараты" ўключае звыш 270 назваў. Гэта медыцынскія прэпараты (больш за 250 гатовых лекавых форм), а таксама ветэрынарныя прэпараты, касметычныя сродкі, харчовыя і кармавыя дабаўкі. Прадпрыемства выпрабляе антыбіётыкі, кровазамяняльнікі, проціпухлінныя сродкі, процівірусныя прэпараты, процітуберкулёзныя прэпараты, біястымулятары, адаптагены, імунакарэктары, кардыятропныя прэпараты.

Аб'ём вытворчасці гатовай прадукцыі складае больш 300 мільярдаў беларускіх рублёў у месяц. Прадукцыя ААТ "Белмедпрэпараты" рэалізуецца на беларускім рынку, а таксама часткова пастаўляецца ў краіны блізкага і далёкага замежжа. Сыравіна імпартуецца ў асноўным з краін далёкага замежжа.

чалавек, які фінансаваў узнаўленне страчанага Крыжа святой Ефрасінні Полацкай, інвесціраваў іншыя царкоўныя праекты, за што Беларускім Экзархатам Рускай праваслаўнай царквы быў і сам амаль што залічаны да святых: атрымаў вышэйшую ўзнагароду —ордэн святога Роўнаапостальнага вялікага князя Уладзіміра. Ці не паспяшаліся? Аднак, калі ўзнагародзілі, дык і пэўную маральную, духоўную адказнасць за чалавека ўзялі на сябе. Але чамусьці ў гэтыя



*Патрыяршы Экзарх усея Беларусі ФІЛАРЭТ і прэзідэнт Міжнароднага дабрачыннага фонду Жыватворнага Крыжа святой Ефрасінні Полацкай Анатоль СІЛІВОНЧЫК з адроджанай святыняй.*

драматычныя для Анатоля Сілівончыка дні меркаванне Праваслаўнай царквы пакуль застаецца невядомым.

Яшчэ больш здзіўляе магільнае маўчанне Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", сябрам Рады якога Анатоль з'яўляецца. Кіраўніцтва, натуральна, у першыя ж дні павінна было выявіць сваю пазіцыю, узяць пад абарону ці асудзіць паводзіны чалавека, з якім яно, хай выбачаюць на слове, у свой час насілася, як з пісанай торбай. І было за што: у крытычны для ЗБС момант, калі справа выжывання арганізацыі паўстала рубам, А. Сілівончык з уласцівай яму шчодрасцю і размахам аплаціў усе, паверце, немалыя даўгі.

Некалькі дзён запар тэлефаную ў сядзібу ЗБС, але аўтамат (то па-ангельску, то па-руску) далдоніць адно і тое ж: на месцы нікога няма, пакіньце вусную інфармацыю. Пакідаю, але таксама не атрымліваю адказу. Тэлефаную дахаты сакратару Управы Лідзіі Савік, пытаю: дзе старшыня Рады. На аздараўленні ў Турцыі, — адказвае. — Як гэта? — здзіўляюся. — Ды так, Ганна Сурмач толькі што павезла чарнобыльскіх дзяцей аздараўліваць у Турцыю. — Чарнобыльскіх ды ў Турцыю? — Мы на Управе таксама здзіўляліся, але Ганна нас паставіла перад фактам. Яна раіцца не любіць.

Даводзіцца толькі развесці рукамі ад такога, яшчэ аднаго, бязглуздага марнатраўства і, галоўнае, ад поўнай абыякавасці да лёсу чалавека, які да гэтага "памарачэння" нямала зрабіў для Беларусі і беларусаў, асабліва для ЗБС "Бацькаўшчына" і старшыні яго Рады.

Справа Сілівончыка... Ці толькі аднаго Анатоля Сілівончыка справа?.

**Яўген ЛЕЦКА.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

# ЛЕТНІЯ ЗАНЯТКІ ПА-БЕЛАРУСКУ

***З 5 па 19 ліпеня на філалагічным факультэце БДУ працаваў IV летні семінар беларускай мовы, літаратуры і культуры, на які з'ехаліся слухачы з Чэхіі, Польшчы, Венгрыі, Фінляндыі, Аўстрыі, Ізраіля і іншых краін свету. Усіх іх аб'ядноўвала жаданне бліжэй пазнаёміцца з культурай Беларусі, вывучаць беларускую мову.***



*Дырэктар школы беларусістыкі Лідзія СЯМЕШКА.*

**Аб тым, як узнікла ідэя правядзення семінара, яго задачах, расказвае дырэктар школы беларусістыкі, загадчык кафедры сучаснай беларускай мовы дацэнт Лідзія СЯМЕШКА:**

— Школа беларусістыкі была створана на пачатку 90-х гадоў, і яе дырэктарам стаў Уладзімір Наумовіч, загадчык кафедры беларусазнаўства. У той час у Беларусь прыязджалі ў асноўным перакладчыкі і вядомыя славісты, людзі, якія прафесійна займаліся беларускай мовай. Задачы і мэты школы тады мелі хутчэй культурна-пазнавальны характар. Методыкі выкладання беларускай мовы як замежнай яшчэ не існавала. Былі праведзены тры летнія семінары, пасля чаго дзейнасць школы прыпынілася. І вось летась вучоны савет філалагічнага факультэта вырашыў аднавіць заняткі. Чаму? На факультэце адкрыліся новыя аддзяленні — славянскай і рамана-германскай філалогіі. Нашы студэнты накіроўваюцца на практыку за мяжу, выязджаюць на летнія семінары ў Чэхію і Польшчу. Адпаведна і мы пачалі прымаць моладзь з гэтых краін. Да таго ж адкрылася і новая спецыялізацыя — беларуская мова як замежная. Працягваць работу школа беларусістыкі павінна была на новай аснове: галоўным рабілася практычнае навучанне беларускай мове. Мы распрацавалі новую методыку, праграмы, падрыхтавалі адпаведны вучэбны матэрыял. У прыватнасці выпусцілі дапаможнік для замежных навучэнцаў "Гаворым па-беларуску", аналага якому няма. Гэта першы падручнік, прызначаны для развіцця навыкаў беларускага маўлення і разлічаны на пачатковы этап навучання замежных слухачоў кароткатэрміновых курсаў, летніх школ, а таксама тых, хто самастойна вывучае беларускую мову.

З вялікай зацікаўленасцю рыхтаваліся лекцыі, якія чыталі вядомыя гісторыкі, мовазнаўцы, этнографы, літаратуразнаўцы. І, канешне, нашым навучэнцам была прапанавана разнастайная культурная праграма, якая ўключала ў сябе знаёмства з музеямі, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі і мастакамі, экскурсіі ў Мір, Навагрудак, на возера Свіцязь, у Мікалаеўшчыну і Нясвіж. Адбылася сустрэча з кіраўніцтвам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Асабліва трэба сказаць і пра такую форму заняткаў, як гасцёўня, дзе выкладчыкі і навучэнцы развучвалі беларускія песні, гульні і, ведаеце, рабілі гэта з вялікім задавальненнем.

Зацікавіліся нашы госці беларускай мовай па розных прычынах: для некаторых беларуская мова і ўвогуле Беларусь, дзе яны ніколі не былі і пра якую, на жаль, амаль нічога не ведаюць, — экзотыка. Некаторыя прыходзяць да беларускай мовы пасля вывучэння рускай ці ўкраінскай. Але больш усё ж такі тых, хто ўжо знаёмы з нашай мовай, культурай і хоча паглыбіць сваё веды, напрыклад, як венгерскія студэнты. Да іх некалі прыехаў выкладчык з Брэста Мікола Аляхновіч і пачаў факультатыўна выкладаць беларускую мову. Так яны пазнаёміліся з беларускай культурай, зацікавіліся ёю. А адна з венгерскіх студэнтак, Смоленка Эстэр, ужо нават перакладае з беларускай мовы творы Уладзіміра Арлова.

**У школу сёлета прыехалі вядомыя славісты, якія ўжо доўгі час займаюцца беларусістыкай, але ў большасці — магістранты, аспіранты, гэта значыць, будучыя даследчыкі беларускай мовы, перакладчыкі. Усяго 40 чалавек. Вось некаторыя іх выказванні аб выніках навучання.**



*Слухачы з Германіі, Польшчы, Фінляндыі і Расіі на практычных занятках.*

**Поль ВЭКСЛЕР, прафесар (Ізраіль):**

— Я працую на кафедры агульнага мовазнаўства ў Тэль-Авіўскім універсітэце. Вашу краіну наведваю трэці раз і зараз прыехаў, каб палепшыць сваё веданне беларускай мовы. Я ўжо напісаў дзве кнігі па беларускаму мовазнаўству — "Пурызм у беларускай і ўкраінскай мовах" і "Гістарычная фаналогія беларускай мовы", але да гэтага часу вучуся жывой беларускай гаворцы. Таксама было вельмі цікава даведацца пра новае з беларускай культуры, літаратуры, працаваць у вашых бібліятэках з цікавымі для мяне артыкуламі і кнігамі. Лічу, мне абавязкова трэба сюды вярнуцца. Я нават намеціў спіс славутых мясцін, якія хацеў бы яшчэ наведаць.

І, нарэшце, паездка ў Беларусь дала цудоўную магчымасць пазнаёміцца з тутэйшымі татарскімі абшчынамі: справа ў тым, што мяне вельмі цікавяць нацыянальныя меншасці на Беларусі і, у прыватнасці, беларускія мусульмане. Сваёй паездкай я вельмі задаволены і шкадую, што два тыдні знаходжання ў Мінску скончыліся. Але з ад'ездам мая сувязь з Беларуссю не перарвецца: у Ізраілі атрымліваю газету "Голас Радзімы", якая дае шмат інфармацыі, цудоўную магчымасць чытаць па-беларуску.

**Таццяна БУЧЭЛЬ (Латвія):**

— Мы з групай студэнтаў прыехалі з горада Даўгаўпілса. На гуманітарным факультэце нашага педагагічнага універсітэта два гады назад адкрыўся спецкурс "беларуская мова", выкладчыкам якога я і з'яўляюся. Акрамя таго, прадстаўляю беларускую культурна-асветніцкую суполку "Уздым". Мы выпускаем уласную газету пад назвай "Голас беларуса", але, на жаль, з-за недахопу сродкаў яна выходзіць толькі раз на два месяцы. Атрымліваем рыжскае выданне "Прамень" і "Голас Радзімы". З вашай газеты даведваемся пра тое, што адбываецца на Беларусі, з задавальненнем яе чытаем і нават выкарыстоўваем як вучэбны матэрыял на занятках па беларускай мове.

**Рышард РАДЗІК, доктар сацыялогіі (Польшча):**

— Амаль кожны год бываю на Беларусі, але ўпершыню прымаю ўдзел у летнім семінары беларускай мовы, літаратуры і культуры. Беларусістыкай займаюся прафесіянальна, мяне вельмі цікавіць развіццё беларускай нацыянальнай самасвядомасці ў XIX — пачатку XX стагоддзяў, таму шмат чытаю па-беларуску, але ўсё яшчэ дрэнна размаўляю. А добра валодаць беларускай мовай мне проста неабходна, таму што Беларусь — наша суседка, і мы павінны ведаць мову адзін аднаго.

Падрыхтавала
**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



*Падчас "круглага стала" "Сучасны стан беларусістыкі ў свеце" выступае Адам МАЛЬДЗІС, кіраўнік Асацыяцыі беларусістаў.*

**Фота Аляксандра ЗАХАРАВА.**

ДЫЯЛОГІ АБ ВЕЧНЫМ

**ШТО ВЕДАЕМ МЫ АБ ЛЮБОВІ? БАНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ, ДЫ ПРА ЯЕ КОЛЬКІ ЎЖО СКАЗАНА-ПЕРАКАЗАНА, ПІСАНА-ПЕРАПІСАНА, ЗАЎВАЖАЦЬ СКЕПТЫКІ. ТЫМ НЕ МЕНШ, КАЛІ ГЛЫБОКА ЗАДУМАЦЦА, ГАВОРАЧЫ ПРА ГЭТАЕ САМАЕ ДЗІВОСНАЕ, ПРЫГОЖАЕ І ЗАГАДКАВАЕ З ПАЧУЦЦЯЎ, МЫ ЛІЧЫМ, ШТО НІБЫТА ВЕДАЕМ МНОГАЕ І Ў ТОЙ ЖА ЧАС, ЯК ГЭТА НІ ПАРАДАКСАЛЬНА, ВЕДАЕМ ПРА ЯГО ВЕЛЬМІ МАЛА...**

**СКАЖЫЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, ЧАМУ ЧАЛАВЕК НЕ МОЖА ЖЫЦЬ БЕЗ ЛЮБОВІ? І ЧАМУ ЯНА ТАКАЯ ШМАТГРАННАЯ? ГЭТА І ЛЮБОЎ ДА БЛІЖНЯГА, БАЦЬКОЎ І ДЗЯЦЕЙ, ДА РАДЗІМЫ, ПРЫРОДЫ, ЧАТЫРОХНОГІХ СЯБРОЎ... ЧАМУ ЛІЧЫЦЦА, ШТО ШЛЮБЫ НАРАДЖАЮЦЦА НА НЯБЁСАХ, З'ЯЎЛЯЮЧЫСЯ АДНЫМ З ТАІНСТВАЎ ЦАРКВЫ?... АДКАЗАЦЬ НА ПЫТАННЕ НЕ ТАК ПРОСТА, ЯК ЗДАЕЦЦА НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД. ТЫМ БОЛЬШ ЦІКАВЫ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ АЙЦА ГЕОРГІЯ ЛАТУШКІ — НАСТАЯЦЕЛЯ СВЯТА-ПЕТРАПАЎЛАЎСКАГА САБОРА Ў МІНСКУ, ЯКІ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО, ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ СВЯТОМУ ПІСАННЮ, МОЖНА СПАСЦІГНУЦЬ ВЯЛІКУЮ ТАЙНУ БЫЦЦЯ.**

# Двухадзіная запаведзь ЛЮБОВІ

— Паняцце, з'ява — любоў — у хрысціянскім, біблейскім, больш поўна, у евангельскім разуменні... Хрыстос — увасоблены Бог, які прыйшоў на зямлю, у сваім жыцці, у сваіх словах, вучэнні сваім, нарэшце, у царкве, якую заснаваў, даў нам не толькі паняцце любові, але і саму форму любові. Што ёсць любоў? Перш за ўсё, павінны адзначыць такую ўласцівасць любові, як ахвярнасць. Таму што, у нашым разуменні, у простым і звычайным, гэта ўвогуле нават эгаістычнае памкненне. Вось мне нешта падабаецца, я люблю жывапіс, значыць я стараюся набыць нейкія карціны, стараюся часцей прыходзіць у музеі, любавацца творамі мастацтва, мець іх. Вось я люблю маркі калекцыяніраваць, я іх збіраю, мяняю... Нарэшце, ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, паміж мужам і жонкай: мне падабаецца гэты чалавек, і ён павінен быць каля мяне, ён павінен быць маім, ён мяне задавальняе. І потым аказваецца раптам: не сышліся характарамі. Усё. І любоў прападае, разбураецца. Чаму? У адказ: таму што ён (яна) мяне ўжо не задавальняе. Характары розныя. Я разлічваў мець тое і тое ад гэтага чалавека, а ён мне не можа гэтага даць, не можа так сябе паводзіць, як мне хацелася б... У хрысціянскім жа разуменні, у Хрыстовым, — няма большай за тую любоў, як калі хто душу сваю пакладзе за сябра свайго. "Цяжар адзін аднаго насіце, — гаворыць апостал Павел, — і тым выканаеце закон Хрыстовы".

"Цяжар адзін аднаго насіце". Калі аднойчы законнікі, спакушаючы Хрыста, хацелі ўлавіць, г. зн. заўважыць, выявіць нейкія неадпаведнасці, нескладнасці ў яго вучэнні, то задалі складанае філасофскае, багаслоўскае пытанне, якое многія мудрацы і кніжнікі іудзейскія не маглі адназначна вырашыць. Якая запаведзь галоўная ў Законе? І Хрыстос зноў жа сцвярджае — пра любоў. Ён дае двухадзіную запаведзь любові — так мы цяпер называем гэта. Ён гаворыць: "Узлюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, усёю душою тваёю, усімі думкамі тваімі, усёй моцай тваёю, усёй істотай тваёй палюбі Госпада Бога і бліжняга, як сам сябе". На гэтым, гаворыць Хрыстос, "будуецца, трымаецца Закон і прарокі". Двухадзіная запаведзь любові ляжыць у падмурку ўсяго Божага вучэння, усёй запаведзі Божай. Гэта галоўная запаведзь, і ўсё астатняе выцякае адсюль. Гэта значыць усё, што адбываецца ў царкве, адбываецца ў жыцці, адбываецца ў нашай душы, — у нашым жыцці можна правяраць і трэба правяраць вось гэтым. Вось гэтай запаведдзю любові. Наша жыццё, нашы ўчынкі, нашы адносіны адпавядаюць ці не адпавядаюць ёй? Ці, слава Богу, набліжаюцца да гэтага. Ці, не дай Бог, аддаляюцца ўсё далей і далей. Ці мы толькі маем выгляд набожнасці, і посцімся, і свечкі ставім, і царкоўныя святы святкуем, не напоўненыя жыватворнаю любоўю. Але сіла набожнасці — у любові, у ахвярнасці. І калі гэтага няма, то ўсе нашы малітвы, усе нашы ахвяры, вядома ж, бессэнсоўныя і нават кашчунскія, таму што не напоўненыя, не ажыватвараюцца Божай любоўю.

**— Усё, пра што вы сказалі, так проста і складана адначасова. Гавораць: шлюбы нараджаюцца на нябёсах. Шлюб — адно з сямі святых таінств. Звязваючы свой лёс з лёсам іншага чалавека, многія не ведаюць, як трэба да гэтага важнага кроку быць падрыхтаваным.**

— Часам тут адбываецца падмена паняццяў. Людзі нейкую прывязанасць, сімпатыю, сімпатызаванне, захапленне называюць любоўю, прыпісваюць самыя ўзвышаныя якасці, уласцівасці захапленню, нават можа быць часоваму і легкадумнаму. І бяда, калі чалавек кіруецца гэтым легкадумным захапленем. І яшчэ горш, калі чалавек увогуле ў аснову свайго жыцця ставіць мэтай пошук такіх захапленняў і не бачыць, нават патрэб часта не ўмее набыць, знайсці глыбокую любоў, тую сваю палавінку, адзіную, якая сярод мільярдаў людзей толькі адна адзіная. Прадбачаннем Божым так наладжана і заведзена. Калі ж я захапляюся: і гэта, бачым, нешта цікавае, добрае, і тая добрая, і пятая і дзевятая, то тады гэта легкадумнасць, вядома, пачуцці прытупляюцца, апашляюцца, і чалавек жаданае выдае за сапраўднае. Апускаецца душа, як у Прыключчэва. Апускаецца душа. Вось у гэтым наша бяда.

А увогуле любоў і шлюб — гэта благаславенне Божае. Гэта найвялікшая здольнасць чалавека быць чалавекам. І стаць чалавекам. І да гэтага трэба ставіцца вельмі сур'ёзна, адказна, з малітвай і з глыбокай павагай. Чаго таксама часам не хапае? Шлюб — гэта таінства. Царква бачыць у шлюбе, шлюбных адносінах таінства. І да гэтага ставіцца вельмі сур'ёзна, вельмі ўзвышана. Царква патрабуе ад чалавека адказных, беражлівых адносін да шлюбу.

Бяда толькі, што наша масавая культура аб іншым гаворыць, іншаму вучыць, і гэта цяпер, на жаль, пераважае. І таму і шлюбы слабыя, і ўвогуле развод нават не праблемай аказваецца. Ужо нармальнай з'явай для грамадства і грамадскай думкі становяцца разводы. Другі, трэці раз замуж выйсці, ажаніцца — звычайная з'ява.

**— А які пункт гледжання хрысціянскі на тое!**

— Гэта нонсенс.

**— Значыць чалавеку трэба шукаць сваю сапраўдную палавіну. Але як яе знайсці?**

— Калі чалавек ставіцца да гэтага сур'ёзна, адказна, то абавязкова знойдзе. Па-першае, тут не павінна быць паспешлівасці, не трэба аддавацца ўладзе пачуццяў сваіх. Варта злучыць пачуцці і разум. І, вядома ж, павінна малітва суправаджаць жыццё маладога чалавека, маладой дзяўчыны. Тут патрэбны асобы настрой, асобы стан, настрой сэрца, душы. І тады адкрываюцца нейкія новыя гарызонты, новыя ісціны, з'явы больш глыбокія, якія ляжаць не на паверхні, не шумныя, не прыцягальныя. І чалавек вучыцца рабіць вывад не па знешняму выгляду, а судом праведным. Гэта значыць ужо больш глядзіць у душу бліжняга. Каб так рабіць, трэба мець пэўныя навыкі і здольнасці да гэтага.

**— Гэта значыць чалавек павінен падрыхтавацца да такога кроку, настроіцца?**

— Так, настроіцца на гэта і мець здольнасць гэтак жа, як, скажам, музыкант, які чуе значна больш, чым не музыкант, ці мастак, які бачыць значна больш, чым чалавек, які не займаецца жывапісам, і гэтак далей. Нават можна так сказаць, што хрысціянін, веруючы чалавек павінен быць і з'яўляецца ў нейкай ступені прафесіяналам у духоўных з'явах, у духоўным жыцці. І там ён больш бачыць, безумоўна, чым чалавек няверуючы. Сутыкаецца з духоўнымі з'явамі кожны, але не кожны прызнае іх, адмаўляючы іх рэальнасць, духоўна ці скажона, прыватна яе разумеючы. Адсюль уся заблытанасць і, увогуле, трагічнасць нашага часу.

**— Але бывае, што чалавек, нягледзячы на многія намаганні, не можа знайсці сваю палавіну...**

— Вядома ж, і такое здараецца. Бывае, што чалавек знаходзіць сваю другую палавіну ўжо ў вельмі позні час. Жывёле ў заапарку своечасова ежа падкладваецца і на прагулку яна выводзіцца. Чалавек жа вольны ў сваіх учынках, у рашэннях сваіх, дзеяннях, у накіраванасці свайго сэрца. Таму ўсе людзі грэшныя, могуць трапіць пад уздзеянне д'ябла — праціўніка Божага, праціўніка ратунку. І з-за гэтага адбываецца шмат і памылковых дзеянняў з боку чалавека. Нават хрысціяне не застрахаваны ад іх. Хрысціўся — і атрымаў гарантыю бяспечнага і добрага жыцця? Не, і тут могуць быць памылкі. Але калі чалавек усё-такі стараецца больш увагі ўдзяляць духоўнаму, сваёй духоўнай рэальнасці, духоўнай частцы сваёй, у яго ўсё-такі значна больш шансаў, магчымасцей правільна зарыентавацца, правільна адрозніць добрае ад дрэннага, правільна ўсё ўбачыць. Ён тады адмаўляе няправільны, грахоўны шлях. Мае і сілы, і навык да гэтага. І потым ужо, адхіліўшы грэх, ён, атрымліваючы дапамогу Божую, добрую падтрымку, атрымлівае рэальную магчымасць і здольнасць правільна прыняць рашэнне.

**— Чалавек вольны ў выбары. Уявім: ён знайшоў другую палавіну і жадае ўзяць шлюб па хрысціянскаму абраду. Што гэта значыць?**

— Чалавек просіць благаслаўлення царквы. Ён просіць Бога благаславіць гэты выбар двухадзіны. Таму што гэта ёсць выбар з боку жаніха і з боку нявесты. І царквой гэта падкрэсліваецца — ці добраахвотна ты ідзеш на гэты крок, ці маеш намер добры і непрымусовы ўзяць сабе ў жонкі тую, якую перад сабой бачыш. І да нявесты таксама: ці маеш ты вольнае жаданне, вольнае волевыяўленне ўзяць сабе мужам таго, каго тут перад сабой бачыш. І чалавек сцвярджае: так, маю. Значыць — нішто мяне не прымушае, я свабодна раблю гэты выбар. Але перад гэтым ёсць яшчэ і нейкі тэрмін выпрабавальны. І цяпер у некаторых мясцінах захаваўся гэты звычай, што праз месяц, скажам, ці праз два будуць браць шлюб маладыя. І, калі ласка, аб'явіце, хто ведае, можа ёсць нейкія перашкоды, нейкія праблемы. Суседзі іх, знаёмыя ўжо ведаюць пра іх рашэнне і маюць права і нават абавязаны паклапаціцца пра тое, каб усё было сумленна, адказна, правільна, па закону. І потым ужо пасля гэтага, калі няма перашкод, калі жаданне дваіх узаемнае, настойлівае, яны просяць блаславіць гэты шлюб. А царква яго благаслаўляе, спалучае мужа жонцы і жонку мужу. І там такія словы нагадваюць: "Бог сочетал, человек да не разлучает". Адсюль выраз, што шлюбы заключаюцца на нябёсах, гэта не проста з'ява нашага сацыяльнага, эканамічнага, культурнага жыцця. Гэта значна больш. Праваслаўе бачыць у чалавеку цэлы сусвет. І маецца на ўвазе нараджэнне людзей з сувязей шлюбных, гэта значыць, таксама сусвет. Тут — таінства. І царква гэта падкрэслівае і нагадвае пра тую вялікую адказнасць, якую на сябе бяруць маладыя. Не толькі разам, скажам, паехаць адпачыць, разам абсталяваць кватэру, разам прагуляцца па парку. Шлюб — гэта значна, значна больш.

**Гутарку вяла**
**Наталля ЦАГЛІНСКАЯ.**



**З невялікага гарадка Шчорс, што на Чарнігаўшчыне, прыехаў у Гомель у 1935 годзе шукаць работу Фёдар ГІЛЯНОК. Цяпер ганаровы чыгуначнік Ф. Гілянок, якому ўжо 83, на пенсіі. Нядаўна прыйшлі да яго ў дом прадстаўнікі музея Беларускага універсітэта транспарту і прынеслі новы касцюм з просьбай абмяняць на яго форму тэхніка цягі І і ІІ катэгорыі. Форма чыгуначніка захавалася ў Фёдара Парфір'евіча з часоў даўніх, яшчэ калі міністрам шляхоў зносін СССР быў Кагановіч. Такія касцюмы засталіся толькі на малюнках падручнікаў гісторыі, а ў ганаровага чыгуначніка — у поўным парадку ў шафе захоўваўся.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

СВОЙ ПОГЛЯД

**Упершыню літаратурную беларускую мову я пачула дзесьці на пачатку 50-х гадоў, калі вучылася ва Уфе на філалагічным факультэце Башкірскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Паклапаціўся пра гэта дацэнт факультэта Леў Бараг. Да вайны ён працаваў загадчыкам кафедры і дацэнтам Мінскага педагагічнага інстытута, старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР. У Башкірыю, як не раз даводзілася чуць, трапіў з-за сваіх беларускіх "нацыяналістычных" поглядаў. Ведучы з намі заняткі па фальклору ўсходнеславянскіх народаў, не раз прыводзіў у арыгінале вытрымкі з беларускай вуснай творчасці. Умеў падабраць з іх найбольш трапныя і адмысловыя, чым садзейнічаў таму, каб у большасці студэнтаў фарміраваўся пазітыўны погляд на беларускую мову.**

Не думала і не чакала, але раптам у жыцці мне вельмі пашчасціла: у сталіцы Башкірыі пазнаёмілася з беларускім хлопцам, які вучыўся на завочным аддзяленні гістарычнага факультэта педінстытута. Пажаніліся. І ў 1958 годзе прыехалі ў самы тыповы нацыянальны куток Беларусі — на Уздзеншчыну. Вось тут я ўволю наслухалася чысцюткай беларускай мовы. На маё шчасце, яе яшчэ не паспелі як след абрусіць перадачы па радыё і тэлебачанні, мастацкае кіно. Зараз ужо і тут гучыць трасянка ў асяроддзі мясцовых жыхароў.

Сваё працоўнае жыццё на Беларусі пачала з загадвання адным з дзіцячых садоў у Мінску. Радавалася, што ў чужым для мяне краі не ўзнікла аніякай праблемы з мовай: уся праца з дзецьмі і выхавальнікамі не толькі ў маім, але і ва ўсіх мінскіх дзіцячых садах вялася выключна на рускай мове. Але часам ад вялікай радасці з-за панавання ў Мінску рускай мовы ў сістэме адукацыі прыходзіла да думкі: а ці на карысць гэта беларускаму народу? Адказам на такое пытанне было: "Не". Бо калі маладыя пакаленні таго ці іншага народа гадуюцца ў чужой мове, яны не ў стане быць носьбітамі яго нацыянальна-культурных традыцый. Спрабавала не раз у неафіцыйнай абстаноўцы гэтае пытанне ўзняць у асяроддзі педагогаў беларусаў. Атрымлівала самыя розныя адказы: "Выцясненне і замена беларускай мовы рускай стварае лепшыя магчымасці для аваладвання беларусамі культурнымі, навуковымі дасягненнямі сусветнай цывілізацыі", "Мы рухаемся да светлага камуністычнага грамадства, і на першым этапе яго існавання ўсе асноўныя моўныя функцыі будзе ажыццяўляць самая развітая ў СССР мова — руская, таму ў захаванні нацыянальных моў ужо няма практычнай патрэбы".

Такія адказы мяне зусім не задавальнялі, і я працягвала адчуваць нейкую незразумелую цягу да беларускага слова. Відаць, спрыяў гэтаму штогадовы адпачынак на беларускамоўнай радзіме мужа — Уздзеншчыне, рэгулярнае наведванне ў Мінску спектакляў Беларускага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.

Стану выхаваўчай працы майго дзіцячага сада неаднаразова давалася высокая адзнака інспектарамі Мінскага гарадскога аддзела народнай адукацыі і самога Міністэрства асветы БССР. Відаць, гэта і паслужыла падставай для запрашэння мяне ў 1965 годзе на працу ў дашкольны аддзел гэтага міністэрства. Тут беларускасці мне нават і ёту не прыбавілася. Яго апарат энергічна працаваў у напрамку далейшага паглыблення працэсу русіфікацыі народнай адукацыі Беларусі.

У плане вернасці беларускасці намнога вышэй за супрацоўнікаў міністэрства стаялі вучоныя яго Навукова-даследчага інстытута педагогікі, куды я перайшла на працу ў 1971 годзе. Тут я ўжо не толькі чула жывую беларускую мову, але і не раз была сведкам вельмі заклапочаных глыбокаасэнсаваных размоў аб шляхах яе развіцця. Як правіла, усе сыходзіліся на такім варыянце: выратаваць беларускую мову, а разам з ёю і сам беларускі народ ад рускай культурнамоўнай асіміляцыі можна толькі праз нацыянальную сістэму адукацыі. Толькі вось бяда, ніхто не адважваўся заявіць пра гэта ў высокія партыйныя інстанцыі, бо, мусіць, ведалі, што там не знойдуць падтрымкі. Таму дзеля інтарэсаў будучыні беларускай мовы яе руплівцам з інстытута педагогікі даводзілася ўжываць свае, няхай сабе і далёка не эфектыўныя сродкі: пісаць метадычныя рэкамендацыі па правя-

*Прывакзальна...*

СПАДЧЫНА

АПТ...



**Храм Святога Міхаіла ўпрыгожыў вёску Ціхінічы Рагачоўскага раёна. Ён узведзены на сродкі маскоўскага пісьменніка Міхаіла Расолава.**

**НА ЗДЫМКУ: настаяцель храма ў Ціхінічах айцец Мікалай разам з маці М. Расолава — Юзэфай Адамаўнай.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# 300 ГАДОЎ РУСКАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АЗБУЦЫ І БІБЛІЯГРАФІІ

● **Аляксей ЯФІМАЎ**, *член міжнародных арганізацый беларусістаў і славяназнаўцаў.*

**У 1991 годзе на Міжнародным кангрэсе беларусістаў упершыню была дадзена высокая адзнака дзейнасці Ільі Капіевіча. Упэўнены, што ў 1999 годзе Беларусь паставіць свайго сына на п'едэстал сусветнай славы.**

У 1999 годзе спаўняецца 300 гадоў рускай грамадзянскай азбуцы і бібліяграфіі. Пётр I глыбока ўсвядоміў, што без грамадзянскай азбукі не можа быць свецкай дзяржавы, грамадзянскага права, перадавой навукі і г. д. Ён разумеў усю складанасць і супярэчлівасць гэтага працэсу і не раскрыў сваёй задумы. Вось чаму ў энцыклапедычным слоўніку выдаўцоў Ф. Бракгаўза і І. Эфрона ў артыкуле "Грамадзянскі шрыфт" гаворыцца: "Пётр даручыў *некаму* (курсіў мой. — **А. Е.**) скласці ўзор грамадзянскай азбукі і адправіў яго ў Амстэрдам для выліцця там новага шрыфту". Цяпер устаноўлена, што гэтым "некім" быў І. Капіевіч. Пётр I у час знаходжання ў Амстэрдаме сустракаўся з Капіевічам.

У 1699 годзе Ілья Капіевіч (Капіеўскі), падкрэсліваючы і беларускае, і польскае паходжанне па маці і бацьку, з Амстэрдама піша асабіста Пятру Вялікаму, што выдаў 12 і падрыхтаваў да друку 11 кніг — па гісторыі, арыфметыцы, астраноміі, літаратуры, марской і воінскай справе.

У прадмове да "Грамматики латинской и русской" Капіевіч адзначае, што ён надрукаваў кнігу ў сваёй друкарні сваім уласным рускім шрыфтам, які адрозніваецца ад царкоўнаславянскага шрыфта. У прадмове да "Руководения в грамматику" Капіевіч паведамляе, што напісаў "новое, кратчайшее сочиненьице, желательное для многих и до сих пор никем не виданное на московском языке, сочинение очень нужное".

Па ўказанню Пятра I ў 1705 годзе Капіевіч перанёс друкарскую дзейнасць у Гданьск, а потым — у Хелм, у 1707 годзе пераехаў у Варшаву, а затым у Расію. У гэты час Капіевіч надрукаваў на лацінскай мове славяна-рускую граматыку і падрыхтаваў да выдання "Геометрию".

Капіевіч, працуючы перакладчыкам у Пасольскім прыказе і сакратаром Пятра I, рэкамендуе цару выклікаць з Амстэрдама яго былых работнікаў друкарні і надрукаваць "Геометрию" амстэрдамскім грамадзянскім шрыфтам. Матэрыялы "Геометрии" былі ім дастаўлены з "ваеннага паходу" з папраўкамі, зробленымі рукою Пятра I. Капіевіч у "Геометрии" змяніў алфавітны склад, спрацііў правапіс, выключыў непатрэбныя для перадачы рускай мовы літары: грэчаскія "псі", "ксі", "амега" і іншыя, знакі націскаў (сілы) і скарачэнняў (цітлы), увёў новыя літары: Е, Э, Я, увёў сістэму абазначэння чыслаў арабскімі і рымскімі лічбамі замест царкоўных літар.

Цар загадвае 1 студзеня 1708 года надрукаваць новым шрыфтам "Геометрию". Першае выданне "Геометрии" ў 1708 годзе было ажыццёўлена ў Маскоўскай друкарні грамадзянскім шрыфтам. "Геометрия" была перавыдадзена пад загалоўкам "Прыёмы цыркуля і лінейкі" ў тым жа 1708 годзе і ў лютым 1709 года.

Новавыдадзеным амстэрдамскім шрыфтам быў набраны ўзор з "изображением древних (церковных) и новых (гражданских) письмен славенских, печатных и рукописных".

У кастрычніку 1709 года наборшчыкі Іван Нікіцін, Сяргей Постнікаў, Рыгор Пнеўскі і іншыя падалі на імя Пятра Вялікага чалабітную і прыклалі ўзор амстэрдамскай грамадзянскай азбукі з просьбай прыняць яе ў Прыказ.

29 студзеня 1710 года Пётр Вялікі разгледзеў узор "Изображения древних и новых писмен славенских, печатных и рукописных", зрабіў змены і выдаў Указ: "впредь с вышеписанного числа всякие исторические и рукописные (на полях: мануфактурные) книги и каковы будут присланы переводы печатать *амстердамскими новоизданными литеры* (курсіў мой. — **А. Е.**), а опрочь тех литер, иными литерами таких книг впредь не печатать".

Пётр I перакрэсліў у прадстаўленай яму азбуцы усе, як загалоўныя, так і вялікія царкоўнаславянскія літары, пакінуў літары грамадзянскай мовы.

Мне ўдалося ўстанавіць, што на першай старонцы грамадзянскай азбукі, дзе надрукаваны першыя літары алфавіта, унізе аркуша чырвоным чарнілам напісана рукой І. Капіевіча: "Дано лета Господня 1710 Генваря в 29 день", а таксама, што рэестр кнігам грамадзянскім у дадатку № 12 "Ведомостей" за 1710 год — гэта чацвёрты рэестр кніг Капіевіча.

У энцыклапедычным слоўніку "Книговедение" ўпершыню афіцыйна прызнаецца аўтарства Капіеўскага (Капіевіча) Ільі Фёдаравіча ў адносінах да рускай грамадзянскай азбукі і бібліяграфіі.

У 1699 годзе Капіевіч надрукаваў на лацінскай і рускай мовах спіс выпушчаных ці падрыхтаваных ім да друку кніг "Рядовой чин, им же книги именуются" — первое печатное русское библиографическое пособие".

Вынаходства і ўвядзенне грамадзянскай азбукі і грамадзянскага шрыфта склалі эпоху ў рускай пісьменнасці і культуры. Адбылося аддзяленне агульнанацыянальнай рускай мовы ад царкоўнаславянскай. Царкоўнаславянскі друк абмяжоўваецца патрэбамі царквы і духоўнай адукацыі. Грамадзянскі друк атрымлівае права на жыццё ў прыродазнаўчых, тэхнічных, публіцыстычных, дзелавых і літаратурна-мастацкіх сферах. Руская грамадзянская азбука легла ў аснову грамадзянскага беларускага, украінскага і іншых алфавітаў. Руская мова мае гістарычнае і культурнае значэнне для ўсіх славянскіх і іншых народаў. Яна заканамерна стала міжнароднай мовай.

Уклад Капіевіча (Капіеўскага) у славянскую пісьменнасць і культуру раўнацэнны ўкладу Кірылы і Мяфодзія. Авалоданне багаццем старaславянскай (кірыла-мяфодзіеўскай) і новаславянскай (капіеўскай) пісьменнасці становіцца ўсё больш настойлівай патрэбай часу, а вывучэнне славянскай гісторыі набывае выключна важнае навуковае і грамадскае значэнне.

**г. Адэса, Украіна.**

ЗАМЕЖЖА

● **Эмануіл ЮФЕ**, *акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей, прафесар, доктар гістарычных навук.*

Паэт і драматург Г. Лейвік нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Ігумене Мінскай губерні ў 1888 годзе. Яго сапраўднае імя і прозвішча Лейвік Гальперн. 17-гадовым юнаком ён далучыўся да рэвалюцыйнага руху, быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Адтуль Лейвік уцёк у 1913 годзе ў ЗША. Тут ён працаваў абіўшчыкам, а затым на фабрыцы дзіцячага адзення ў Філадэльфіі.



Неўзабаве выйшаў першы зборнік вершаў Г. Лейвіка "Пад замком", а ў 1917—1920 гадах — чатыры паэмы аб пагромах. Шырокі грамадскі рэзананс выклікала манументальная драматычная паэма "Голем". У 1921—1929 гадах Лейвік стварае драмы "Анучы", "Інакш", "Бедная дзяржава", "Банкрут", "Майстэрня", "Гірш Лекерт", "Ланцугі", пастаўленыя на амерыканскай яўрэйскай сцэне. З 1936 года ён разам з І. Апатошу выдаваў літаратурныя зборнікі "Замлбіхер", што адыгралі прыкметную ролю ў развіцці яўрэйскай літаратуры. Трагічнаму лёсу еўрапейскага яўрэйства ў гады другой сусветнай вайны прысвечаны кнігі Г. Лейвіка "У Трэблінцы я не быў", "Вяселле ў перадлессі". Апошняя кніга вершаў "Ліст на яблыні" выйшла ў 1955 годзе. Г. Лейвіка не стала ў 1962 годзе.

# БЕЛАРУСКІЯ

У 1928 годзе ў Нью-Йорку выйшаў у свет Выбраны збор твораў класіка яўрэйскай літаратуры Аўрома Рэйзена ў 14-ці тамах, а праз пяць гадоў — Поўны збор яго твораў. Арыгінальны паэт, празаік і публіцыст нарадзіўся ў 1876 годзе ў м. Койданава Мінскага павета Мінскай губерні (цяпер горад Дзяржынск Мінскай вобласці) у сям'і яўрэйскага пісьменніка Калмана Рэйзена. Яго першыя вершы на ідыш былі апублікаваны ў 1891 годзе, а ў 1902 годзе ў Варшаве выйшаў першы паэтычны зборнік А. Рэйзена "Песні часу". Праз год з'явілася першая кніга яго прозы пад назвай "Расказы і карціны".



Менавіта Аўром Рэйзен заснаваў у Варшаве штотыднёвік "Еўрапейская літаратура", у якім публікаваў творы еўрапейскіх пісьменнікаў у перакладзе на ідыш, а таксама творы яўрэйскіх пісьменнікаў.

У час наведвання ЗША ў 1911 годзе А. Рэйзен заснаваў штотыднёвік "Гэта новая краіна", затым "Літаратурны свет" і "Новы часопіс", што стаў галоўным друкаваным органам літаратуры на ідыш. У 1914 годзе ён пераязджае ў ЗША на пастаяннае жыхарства і публікуецца ў яўрэйскіх газетах "Форвертс", "Тог" і інш. У 1922-1923 гадах А. Рэйзен выдаваў літаратурны штомесячнік "Новы ідыш". У 1927 годзе ў Нью-Йорку выйшла ў свет кніга мемуараў пісьменніка "Дваццаць гадоў у Амерыцы". Многія вершы Аўрома Рэйзена былі пакладзены на музыку і сталі папулярнымі песнямі. На амерыканскай зямлі ён стварыў свае драматычныя шэдэўры — п'есы "Добрыя браты", "Дачка шадхана", "Спакойная кватэра", пастаўленыя многімі тэатрамі свету. Аўром Рэйзен пераклаў на ідыш многія творы сусветнай літаратуры, у тым ліку "Дзяцінства" Льва Талстога. Жыццёвы шлях Рэйзена скончыўся ў Нью-Йорку ў 1953 годзе.

На амерыканскай зямлі адбылося станаўленне літаратурнага таленту паэтэсы, празаіка і перакладчыка Сары Рэйзен (1885—1974), якая таксама, як і яе старэйшы брат Аўром, нарадзілася ў мястэчку Койданава. Калі яна прыбыла ў ЗША, ёй было ўжо сорак восем гадоў. Вершы Сары Рэйзен увайшлі ў літаратурныя зборнікі і анталогіі. Калі яе першая кніга "Сон і рэчаіснасць" выйшла ў Варшаве, другая — "Вершы" — у Вільні, то трэцяя — з такой жа назвай у Нью-Йорку ў 1955 годзе. Сара Рэйзен зарэкамендавала сябе таленавітай перакладчыцай. Яна пераклала на ідыш многія творы Аляксандра Пушкіна, Івана Тургенева, Льва Талстога, Рабіндраната Тагора і іншых сусветна вядомых пісьменнікаў.

Сусветную вядомасць атрымалі даследаванні і кнігі ўраджэнца Віцебска, гісторыка, культуролага, псіхааналітыка Іmануіла Велікоўскага (1895—1979). Да пераезду ў ЗША ў 1939 годзе ён атрымаў медыцынскую адукацыю ў Маскве, выдаваў і рэдагаваў міжнародны навуковы часопіс "Скрыпта", да ўдзелу ў якім залучыў сусветна вядомых фізікаў Нільса Бора, Альберта Эйнштэйна, Льва Ландау. З 1923 года Велікоўскі жыў у Палесціне, дзе працаваў урачом-псіхааналітыкам і апублікаваў некалькі тэарэтычных работ па псіхааналізу ў еўрапейскіх навуковых часопісах, высока ацэненых Зігмундам Фрэйдам. Будучы выкладчыкам аднаго з самых прэстыжных універсітэтаў ЗША — Прынстанскага, ён інтэнсіўна заняўся навуковай дзейнасцю. Іmануіл Велікоўскі быў аўтарам шматлікіх кніг, у якіх выкладзена арыгінальная канцэпцыя касмічнай і еўрапейскай гісторыі, якая атрымала шырокую папулярнасць і стварыла вялікую школу паслядоўнікаў і прыхільнікаў ва ўсім свеце. Захапляльнасць і маштабнасць яго гіпотэз, эфектнасць "альтэрнатыўнай гісторыі" вучонага, а таксама дзёрзкі і ўражваючы размах касмаганічнай часткі яго тэорыі, шырыня культуралагічных супастаўленняў і бліскучая вынаходлівасць тлумачэнняў — усё гэта прыцягнула да кніг Велікоўскага ўвагу мільёнаў чытачоў і прынесла яму сусветную вядомасць. Пасля яго смерці прайшло амаль дваццаць гадоў, але да гэтага часу карыстаюцца папулярнасцю такія кнігі Велікоўскага, як "Светы ў сутыкненнях", "Стагоддзі ў хаосе", "Зямля ў канвульсіях", "Эдып і Эхнатон", "Людзі мора", "Рамзес Другі і яго час", "Чалавецтва ў амнезіі" (апошняя кніга выдадзена ў 1982 годзе пасмяротна).

Вучоным з сусветным імем стаў у ЗША мінчанін Давід Бернштэйн. Калі ён упершыню ступіў на амерыканскую зямлю, маленькаму Давіду было ўсяго два гады. Праз 18 год ён скончыў Нью-Йоркскі універсітэт і стаў вядомым отарыналарынголагам. У 1935 годзе Д. Бернштэйн стаў доктарам медыцыны. Неўзабаве ён ужо прызнаны аўтарытэт сярод амерыканскіх медыкаў. З 1969 года ўзначальваў отарыналарынгалагічную службу медыцынскага цэнтра Майманіда ў Брукліне. Д. Бернштэйн — член Амерыканскай акадэміі пластычнай і ўзнаўленчай хірургіі твару, Нью-Йоркскай медыцынскай акадэміі, Міжнароднага хірургічнага каледжа. З 1969 года ён член камітэта планавання навуковай праграмы ў галіне отарыналарынгалогіі. Урачы

Працяг.
Пачатак у №№ 29-30.

# «ВЯСЁЛКАВЫ ЛАЎР» САКРАТУ ЯНОВІЧУ

Лаўрэатам "Вясёлкавага лаўра" — агульнапольскай узнагароды, якая прысвойваецца за пашырэнне ідэі тэлерантнасці ў адносінах да меншасцей стаў Сакрат Яновіч. Атрымаў ён гэтую ўзнагароду за публіцыстыку, прысвечаную нацыянальным меншасцям і адносінам да іх з боку большасці грамадства.

Узнагарода, якую заснавалі прадпрымальнік Яраслаў Эндэр і журналіст Славамір Стараста, прысвойваецца ўжо другі год. У ліку мінулагодніх лаўрэатаў былі, між іншым, журналістка Моніка Алейнік, парламентарыі Зофія Куратоўска і Мікалай Казакевіч. Сёлета ўзнагароду атрымалі таксама былы маршалак Сейма Аляксандр Малахоўскі, шэф Хельсінскага фонду Марк Навіцкі, пісьменніца і філосаф культуры Марыя Шышкоўска, юрыст Лех Фаляндыш і шэф гуманітарнай арганізацыі МОНАР Марк Катаньскі.

**"Ніва".**
Польшча.



# ЯЎРЭІ Ў ЗША

ўсяго свету выкарыстоўваюць навуковыя працы Д. Бернштэйна па лячэнні захворванняў вуха, горла, носа, па розных праблемах пластычнай хірургії твару.

У 1992 годзе ў Нью-Йорку скончыўся жыццёвы шлях выдатнага амерыканскага пісьменніка-фантаста і вучонага-біяхіміка Айзека Азімава. Яго навукова-фантастычныя і навукова-папулярныя кнігі чытаюць сёння ва ўсім свеце. Калі 2 студзеня 1990 года Айзеку Азімаву споўнілася 90 гадоў, ён быў аўтарам ці рэдактарам 445 кніг і яшчэ два дзесяткі яго кніг рыхталіся да друку.



Жыццёвы шлях гэтага чалавека пачаўся ў мястэчку Пятровічы Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні (сёння гэта на мяжы Смаленскай і Магілёўскай абласцей) у самым пачатку 1920 года. У 1923 годзе яго бацькі эмігрыравалі ў ЗША і пасяліліся ў Нью-Йорку. А. Азімаў скончыў Калумбійскі універсітэт і абараніў доктарскую дысертацыю. Ён працаваў дацэнтам і прафесарам кафедры біяхіміі Бостанскага універсітэта.

А. Азімаў – "кароль навуковай фантастыкі". У залаты фонд сусветнай літаратуры ўвайшлі яго навукова-фантастычная трылогія "Фонд", яго работы "Камень у небе", "Я, робат", "Канец вечнасці" і іншыя.

Некаторыя фантастычныя ідэі Азімава сталі потым рэальнасцю. Ён прадказаў выкарыстанне робатаў на вытворчым канвееры, з'яўленне кішэнных камп'ютэраў, выхад чалавека ў адкрыты космас.

Калі сям'я Морыса Рафаэля Когена ў 1892 годзе эмігрыравала з Мінска ў ЗША, хлопчыку было толькі 12 гадоў. Прайшоў час. Коген скончыў Гарвардскі універсітэт і 26 гадоў (1912—1938) выкладаў філасофію ў Сіці-каледж у Нью-Йорку. У 1928 годзе наш зямляк быў абраны прэзідэнтам Амерыканскай філасофскай асацыяцыі. У 1939—1941 гадах Коген — прафесар Чыкагскага універсітэта. У 1933 годзе ён заснаваў "Канферэнцыю па інтарэсах яўрэяў" — арганізацыю, якая займалася даследаваннем гісторыі і культуры яўрэяў. Высокую ацэнку спецыялістаў атрымалі работы М. Когена ў галіне філасофіі права, артыкулы з крытыкай кансерватыўнага антыпрацоўнага заканадаўства, некалькі манаграфій па натурфіласофіі. Асобую вядомасць набылі такія яго кнігі, як падручнік "Уводзіны ў лагічныя і навуковыя метады" (напісаны Когенам сумесна з Э. Нагелем і выдадзены ў 1934 годзе) і аўтабіяграфія "Падарожжа летуценніка", што выйшла ў свет праз два гады пасля смерці аўтара — у 1949 годзе.

У 1940 годзе ЗША сталі пастаянным месцам жыхарства палітычнага дзеяча, публіцыста, палітолага і саветолага, ураджэнца беларускага горада Рагачова Давіда Даліна (сапраўднае прозвішча Левін) (1889—1962). Яму быў ужо 51 год. За яго плячыма былі гады дзейнасці ў якасці дэпутата Маскоўскага Савета, рэдактара газеты "Печатник", члена ЦК партыі меншавікоў, рэдактара часопіса "Социалистический вестник", члена замежнай дэлегацыі РСДРП. Прыехаўшы ў ЗША, Далін адышоў ад палітычнай дзейнасці і заняўся вывучэннем унутранай і знешняй палітыкі СССР. Менавіта ў амерыканскі перыяд яго жыцця і дзейнасці былі напісаны кнігі, якія прынеслі Даліну славу сур'ёзнага і аўтарытэтнага вучонага-палітолага і вучонага-саветолага. Размова ідзе аб працах "Знешняя палітыка Савецкай Расіі", "Расія і пасляваенная Еўропа", "Сапраўдная Савецкая Расія", "Савецкі шпіянаж", "Савецкая Расія і Далёкі Усход", "Прымусовая праца ў СССР".

Сярод беларускіх яўрэяў, якія пераехалі ў ЗША, — кінарэжысёры і кінапрадзюсеры.

Амерыканскі кінапрадзюсер Луіс Бурт (Эліэзер) Маер (1885—1957) нарадзіўся ў Мінску. У 1903 годзе, у 18-гадовым узросце, ён апынуўся ў ЗША. Ужо праз чатыры гады Маер адкрыў маленькі кінатэатр у Хаверхіле. Разам з Горданам ён стварыў сетку кінатэатраў у Новай Англіі (сетка "Гордан-Маер"). Спачатку Луіс Маер заняўся пракатам, а потым прадзюсерскай дзейнасцю. Ён заснаваў "Луіс Б. Маер Пікчэрс Карпарэйшн", якая аб'ядналася ў 1924 годзе з "Метра Пікчэрс Карпарэйшн", а затым з фірмай С. Голдвіна ў "Метра-Голдвін-Маер". Да 1942 года Маер быў яе віцэ-прэзідэнтам. З фільмаў Маера найбольшую вядомасць атрымалі "Вялікі парад" (1925), "Бен Гур" і "Прынц-студэнт" (абодва — 1927), "Ганна Крысці" (1930), "Гранд-атэль" (1932), "Мяцеж на "Баўнці" (1935), "Вялікі Зігфелд", "Сан-Францыска" (абодва — 1936), "Добрая зямля" (1937), "Горад хлопчыкаў" (1938). Наш зямляк быў адным з заснавальнікаў Амерыканскай асацыяцыі ўладальнікаў кінатэатраў і Акадэміі кінамастацтва (1927). За сваю высакародную дзейнасць Луіс Маер быў удастоены ордэна Ганаровага Легіёна.

Некаторыя яўрэі — ураджэнцы Беларусі атрымалі ў Злучаных Штатах Амерыкі вядомасць як мастакі і скульптары.

Радзіма славутага амерыканскага мастака Абрама (Абрахама) Маневіча (1881-1942) — адзін з самых старажытных беларускіх гарадоў Мсціслаў. Тэмай многіх яго карцін стала жыццё яўрэйскіх мястэчак у Расіі. Пачынаючы з 1911 года, карціны А. Маневіча выстаўляліся ў парыжскіх салонах. Мастак эмігрыраваў у 1921 годзе. Ён нядоўга прабыў у Варшаве, а затым пасяліўся ў ЗША. З вялікім поспехам прайшлі выставы карцін Маневіча ў Філадэльфіі (1923), Нью-Йорку (1924—1925), Чыкага (1926). Ён удзельнічаў у Міжнароднай выставе жывапісу ў Пітсбургу ў 1925 годзе. Бруклінскі музей купіў пейзажы А. Маневіча "У мястэчку" і "Бярозкі".

Заваяваўшы прызнанне ў ЗША, Маневіч у сярэдзіне 1920-х гадоў звярнуўся да новай тэмы: пейзажы ціхіх, "непарадных" куткоў амерыканскай правінцыі. У 1927 годзе ён упершыню паказаў каля 40 карцін з серыі "Празаічная Амерыка" на выставе ў галерэі "Дзюран-Руэль" у Нью-Йорку. Амерыканскія пейзажы Маневіча экспанаваліся на вялікіх персанальных выставах у Нью-Йорку, Балтымары, Манрэалі, Бостане і Таронта ў 30-х гадах XX стагоддзя.

Вядомы амерыканскі мастацкі крытык Арт Ньюс пісаў у 1936 годзе: "Маневіч стаў адданым мастаком амерыканскіх сцэн, асабліва тых, якія характэрныя для маленькага горада, што палае веліччу нашай восеньскай лістоты. Ён сабраў вельмі цікавы матэрыял з глухіх і занядбаных вуліц з струхнелымі фасадамі, магазінамі і іншымі звыклымі аб'ектамі. (...) Чужы звычайнаму рускаму характару, у аснове якога ляжыць пачуццё трагедыі, Маневіч выказвае сябе як вясёлае дзіця, што сваволіць сярод цюбікаў чыстых фарбаў. Здаецца, яго карціны дрыжаць з такой сілай, што сцэны галерэі вось-вось абрушацца".

Карціны А. Маневіча прадстаўлены ў многіх музеях свету, у тым ліку ў музеях Расіі і Украіны.

Часта бываў у Амерыцы і падоўгу жыў у Нью-Йорку арыгінальны мастак, ураджэнец старажытнага беларускага горада Полацка Савелій Сорын (Завель Ізраілевіч) (1878—1943).

У маі 1920 года ён пасяліўся ў Парыжы і даволі хутка стаў вядомым мастаком. Славу аднаго з славутых рускіх мастакоў прынеслі Сорыну шматлікія жаночыя партрэты.

У Злучаных Штатах Амерыкі жывапісцу дапамагаў мільянер Кон, які пазнаёміў з работамі С. Сорына вышэйшыя колы амерыканскага грамадства.

Славуты жывапісец і гісторык мастацтва, дырэктар Траццякоўскай галерэі ў Маскве Ігар Грабар, які сустракаўся з Савеліем Сорыным у ЗША, пісаў у 1924 годзе: "Становішча Сорына ў сучасным мастацкім свеце Еўропы прыблізна такое, якім было становішча Зулоага прыкладна ў 1900-х гадах. Усе выставы ганяюцца за яго апошнімі рэчамі, самыя вядомыя жанчыны Англіі і Амерыкі абавязкова хочуць мець сорынскі партрэт, валодаючы ўжо бенараўскім і зулоагаўскім, музеі шукаюць яго карціны, буйныя карцінныя гандляры адзін перад адным стараюцца атрымаць даходнага мастака ў сваю краму, — словам, Сорын у модзе, Сорын у цане. Сорын мог бы быць задаволены і супакоіцца, падобна большасці яго папярэднікаў, але яго шчасце ў тым, што ён незадаволены і працягвае шукаць. Ён ведае, што ў яго рэчах усё яшчэ нямала той самай joliesse, банальнай і таннай прыгажосці... Сорын вельмі ўпарты і можа яшчэ павярнуцца ў нечаканым напрамку".

Персанальныя выставы Сорына праходзілі ў Нью-Йорку (у Бруклінскім музеі, галерэі "Вільдэнштэйн", галерэі "Нодлер"), Вашынгтоне, Пітсбургу, Чыкага. У 1924 годзе ён дапамог арганізаваць у Амерыцы Перасоўную выставу рускага мастацтва, а ў 1932-м удзельнічаў у Выставе сучаснага рускага мастацтва ў Філадэльфіі.

Сярод беларускіх яўрэяў — вядомыя палітычныя, прафсаюзныя, грамадскія дзеячы ЗША.

Гісторыю прафсаюзнага руху краіны цяжка ўявіць без ураджэнца горада Брэста Давіда Дубінскага (1892—1982). Гэты чалавек апынуўся на амерыканскай зямлі ў 1910 годзе — у 18-гадовым узросце. Спачатку ён працаваў закройшчыкам. Неўзабаве Дубінскі ўступае ў Амерыканскую сацыялістычную партыю, становіцца актыўным удзельнікам прафсаюзнага руху. Пасля першай сусветнай вайны ён уваходзіць у лік лідэраў Інтэрнацыянальнага саюза рабочых па вырабу жаночага адзення. У 1934 годзе Давіда Дубінскага абіраюць віцэ-прэзідэнтам Амерыканскай федэрацыі працы (АФП). Ён быў адным са стваральнікаў Кангрэса вытворчых прафсаюзаў і Амерыканскай рабочай партыі. Пасля другой сусветнай вайны Дубінскі стаў адным з заснавальнікаў Міжнароднай канфедэрацыі вольных прафсаюзаў. У 1961-м прэзідэнт Джон Кенэдзі назначыў яго членам Прэзідэнцкага кансультацыйнага савета па палітыцы ў галіне працы і кіравання. З 1962 года Давід Дубінскі член Міжнароднага кансультацыйнага савета, удзельнік многіх міжнародных канферэнцый прафсаюзаў.

**З НОВЫХ ВЕРШАЎ**

Алена ЯСКЕВІЧ



## ГАЛІНКА ВЕРЫ

Бяссілле
Думкі перад Духам,
Знямога
Крока прад Быццём.
І праз сумненні
ў літасці Тваёй
Галінка веры прарастае...
Суцішыцца Сляза
і ў радасці ўсміхнецца.
Уровень,
па вадзе
мне Лік Святы
ліецца.

* * *

Душа мая, ты — ў Садзе Руж.
Ад прахалоды ажываю.
Я Божы Крок тут адчуваю,
Душа мая, ты ў Садзе Руж.
Імгнення гэткага не руш.
Няхай марнеюць, тонуць крокі,
І Сад ахутваюць аблокі,
Ярчэй надзей — галінкі зрух.
Душа мая, бы ў Садзе Руж.

* * *

Адвечны Лір,
Ты — Вечны Шут
На троне
Нямой Слязы
адбітак.
Маральна
стомленая біта —
Званочак на кароне.
Адвечны Лір,
Ты Верны Шут...
З Зямлі пакутнае
выгнанне,
І ўчалавечанню
цана — скітанне
Ў жыццёвым пекле. І — скананне...
Сяброўства рукі за цябе
нябачна падкладае,
І, сцяўшы вусны, не кідае...
Адвечны Лір,
Ты — Вечны Шут
На троне
Нямой Слязы
адбітак.
Маральна
стомленая біта —
Званочак на кароне.

## СУТОННІ СЭРЦА

*(Трыпціх)*

**І. ЯК ЛЁГКА ЦНОТЫ КВЕТ СПАЛІЦЬ...**

Як лёгка Цноты квет спаліць,
Бы зброя аб'яўленняў —
стромкі шчыт павек...
Пытаюся:
Ці ёсцейка ў каханні
чысціня,
адданасць,
вера?..
Навошта нарадзілася Венера
Ад Зеўсавай маланкі,[1]
Каб скрасіць як зямное прыцягненне!..
Чаму ж тады
Яна паміж планет употайкі
хаваецца ў камету
Ад жарсцей чалавечага Сусвету?..

* * *

Як лёгка Цноты квет спаліць
Стажарамі жаданняў,
І знішчыць незабудку —
Шчырасці памкненняў.
І атруціць сутонні сэрца
Удачай лёгкаю, бы Плачам.
Зіхоткай Славы стромкі лёт,
І губіцца сяброўства шчыры карагод.
Спакусаў Вежы.

* * *

Як лёгка Цноты квет спаліць...
З Архангельскага Дрэва вырастае
Мудрасці сузор'ем,
Радасцю Пакутаў,
І трызненнем Раю.

* * *

Венера ж узыходзіць на змярканні!
І Душы стогнуць,
стогнуць,
нібы кані.
Венера... ад жаночага ты роду.
Венера, ты ўзыходзіш на змярканні
Агапіяй высакароднай.
І душы стогнуць,
стогнуць,
нібы кані.
Зацьменнем нараджаецца світанне.

**ІІ. НІЖЭЙ ТРАВЫ**

Жыццёвая
цярністая дарога
І ў солі, і ў палыне.
Куды вядзеш мяне:
На Крыж спатолі?
Ды маю я
Заступніцтва
Святое.
Перад Табою я.

* * *

Ніжэй травы,
цішэй зямлі —
надзеяў спленне.
І паўстаюць,
як подых — аб'яўленні...
Дык не збівайце мары на пяту!
...Травіцаю
з зямлёй сплятаюся —
І да Цябе расту.

**ІІІ. ЗБАВЕННЕ[2]**

Сэрца Тваё
ў крыві[3] Любові,
Вечнай,
як прага Раніцы.
Перада мною —
змярканне
аблокаў у попеле...
Поле спадлеласці сцелецца...
Чуецца боль Тваіх ранаў
У празрыстым трызненні,
Дзе здабыць сілы знесці
Падманлівую дабрадзейнасць?..
Сэрца Тваё
ў Крыві Любові
Тоне ў дакоры.
Поўдзень струменіцца
ў вечары.
За ворагаў каюся.
Як Сонца пляскаю
Маці Твая, Спасе, ўслаўлялася,
Так пякельнымі ласкамі
Душы Слава ўсміхалася.
Сэрца Тваё
ў Крыві Любові.
Вечнай, як прага Раніцы.
Цяжка спасцігнуць,
Што Цнота дзеецца
З удзячнасці за Абразу.
Сэрца Тваё
ў крыві Любові
Радуюся ачышчэнню.
Ад жарсцяў
у знямозе ўцёкам.
І ад Нябыту крэўнасці
іду
Да сваяцтва з Вечнасцю.

* * *

Прарокам
не пазбавіцца
пакут сваёй Айчыны.

---

[1] Як лічылі старажытнакітайскія, вавілонскія, індыйскія і егіпецкія гісторыкі, спачатку на Небе статычна існавалі толькі Меркурый, Марс, Юпіцер, Сатурн. Некалі вандроўная Венера, утварыўшы більярдную кампазіцыю з Марсам, Юпіцерам, Зямлёю, то з'яўлялася, то знікала, то прымала выгляд каметы. Згадаем, што вандроўная Венера для старажытных народаў — носьбіт асноватворнага касмічнага закона Агапіі, Любові-Цноты (Дабрадзецелі), найвышэйшага пачуцця духоўнага. Як вынік перамогі ў Любові кахальнага, пачуццёва-жарсцевага пачатку, ударам Зеўсавай (Юпіцеравай) маланкі Венера была пастаўлена ў залежнасць ад прыцягнення Зямлі. Са старажытнасці існуе паданне пра скароную Венеру, якую, як уласнае ўпрыгажэнне, водзіць на нітачцы Зямля вакол Сонца.

[2] Шлях выбаўлення ад жыццёвых жарсцей і нягод да Выратавання ў Госпадзе.

[3] З фацімскага з'яўлення Божай Маці.

Сёння, калі пішу гэтыя радкі, якраз Благавешчанне. Людзі зноў святкуюць дзень Божай Маці. Яна заснула сном зямным, але засталася жывой, узнеслася да прастола Божага.

Яна пакінула нам такі запавет: "Што б ні сказаў Хрыстос, то выканайце. Зразумей, кожны з нас, слова Хрыстова, услухайся ў яго і выканай. І тады ўсё зямное стане нябесным, вечным, перайначаным..."

Мая Мама прайшла па жыцці з гэтым запаветам. Яна для мяне — святая.

* * *

Месяц на небе.

У горадзе ён бляклы. Губляецца сярод ліхтароў, высокіх дамоў.

У горадзе нябеснае свяціла, як бы лішняе, штучнае, бутафорнае.

У вёсцы Месяц — гаспадар.

Выйдзеш з хаты, ён цябе сустракае, прывечвае. Ідзеш за хлеў — сцежку паказвае. Ідзеш на гулі — праводзіць. Сядзіш з дзяўчынай на лавачцы — ён сведка... Ясны Месяц на небе, высокі карагод зорак вакол яго — пад гэтым Божым дахам прайшло жыццё маёй Мамы. Можа, таму яна была такая шчадрыца?..

* * *

У Вялікім Лесе я бываў двойчы.

Першы раз гасцяваў бяздумна, гарэзліва. Малады квас бурліў у галаве. Помню танцы ў клубе. І асаблівa — кадрыль. Таньчыўся ён у некалькі "каленаў", з прытупамі, заліхвацкай крутнёй. Сем патоў з танцораў зганяў.

Дык і гэта не ўсё. Музыкі несупынна наярвалі падыспан, польку, факстрот...

Трасецца драўляная харомiна.

Звіняць масніцы.

Гуляюць вялікалесцы.

А ў перапынку вывальваюцца ўсе ў адбімкі месячнай, зорнай ночы. Здаровы смех-рагатун ляціць у космас. Нехта прыносіць садавіну. Усе храбусцяць крамяныя яблыкі. Радуецца сам Уладар.

Такія вечарынкі — спадчына маёй Мамы. І яна ж некалі "з круга не сходзіла".

А другім наездам у Вялікі Лес мяне ўжо прымалі паважліва. За сталом. З чаркай.

Вадзілі ў бярозавы гай. І мы там да стомы рэзалі баравікі. Тыя грыбы, аб якія спатыкаўся каля кожнай бярозы, — на ўсё жыццё.

Мне карцела ведаць, дзе стаяла хата, у якой жылі Янушэўскія. Хацеў ведаць усё-ўсё пра дзеда, бабу, пра іх род. Але маладыя апавядальнікі найчасцей пацiскалі плячыма. А старыя — перасяліліся на маўклівыя могілкі.

Цяпер прашу, малю сваіх дзяцей, каб не спазніліся распытваць сведкаў даўніны пра радавод, даўнейшую жытку. Бо як без гэтага ісці ў непазнаны свет?..

* * *

Некалі рускі мастак Іванаў пісаў сваю карціну "Яўленне Хрыста перад народам" больш за дваццаць гадоў. Ад яе не адарваць вачэй. На агромністым палатне — людзі, дрэвы, горы, пустыня, неба. На першым плане — вернікі, старыя і маладыя. Сярод іх — Іаан Хрысціцель з узнятымі рукамі ў бок, адкуль ідзе Хрыстос.

Там, здаля, да людзей ідзе Ён. Спакойная, нетаропкая хада. Позірк добры, пранікнёны і строгі. З яго вуснаў вось-вось сарвуцца словы: "Я — Сын Божы, бяру на сябе грахі зямныя!.."

Сам мастак казаў, што ён намаляваў не проста карціну, а перадаў на ёй адну хвіліну жыцця, з якой пачынаецца дзень чалавечы...

Над адной хвілінай мастак працаваў звыш двух дзесяткаў гадоў!

Божа любы, як мне апісаць сто гадоў маёй Мамы, як намаляваць яе вобраз?

Падкажы, Госпадзі, дай фарбы і словы, абудзі памяць, акрылі.

А пакуль я бяру чысты аркуш паперы, уключаю камп'ютэр душы і запісваю, аднаўляю ў памяці пражыты некалі міг...

**Уладзімір ЛІПСКІ**




* * *

У тым штармавым семнаццатым годзе для маёй Мамы закончылася вольніца.

Увосень ад іспанкі памерла яе мама Палагея Іванаўна Караткевіч-Янушэўская. За свае сорак пяць гадоў жыцця яна толькі і ведала, што раджала дзяцей — Міколу, Аню, Агату, Маню (мая Мама!), Паўла, Юзіка, Любу...

На пахаванне Палагеі прыехалі ў Вялікі Лес яе дзядзькі Караткевічы — Андрэй, Мікалай, Іван. Усе яны жылі на хутары Дабужа. Мелі трыста дзесяцін зямлі.

Кажуць, Іван Караткевіч ездзіў у Дзяржаўную думу на пасяджэнні. Быў нізкага росту, рыжанькі, разумны. Са сваёй жонкай Аленай, спявухай і набожніцай, займеў двух сыноў і сем дачок. Сярод іх і Палагея, мая бабка, маміна мама.

На пахаванне Палагеі з'ехаліся і яе родныя, і стрычэчныя сёстры, браты. Адзін з іх Міхаіл, сын Мікалая Караткевіча, хадзіў у званні старога халасцяка. Вось яго і сасваталі з Марыяй Янушэўскай.

У архівах Сведскай царквы, а вёска Сведскае ад хутара Дабужа ўсяго ў трох кіламетрах, я знайшоў дакумент, які сведчыць, што першы мамін муж Міхаіл Мікалаевіч Караткевіч нарадзіўся 5 лістапада 1883 года, запісаны ў кнігах пад № 44. Яго хрысцілі: з хутара Дзедна Міхаіл Браткоўскі і сястра Дар'я, дзявіца. Свяшчэннік — Аляксандр Квяткоўскі, псаломшчык — Фёдар Смародскі. Міхаіл Караткевіч зацверджаны ў дваранстве 25 лютага 1900 года.

Атрымліваецца, першы мамін муж быў старэйшы за яе на семнаццаць гадоў.

З адзінага фота, якое мне перапала ў спадчыну, пазірае ў сённяшні дзень сімпатычны чалавек. Кірпаносы, з вусамі, закручанымі вострымі пікамі ўгору. На ім — касцюм-тройка, белая кашуля, шырокі гальштук. На галаве — высокая шапка служачага з нейкім значком наверсе. Позірк арліны. А як жа — дваранін Бабруйскага павета!

Хутар Дабужа кіламетраў за дзесяць ад вёскі Вялікі Лес. Маміна вясельнае падарожжа было не далёкім. Праз вёскі Кабанаўка, Атрубы, праз раку Бярэзіну.

Яе і замужжа было кароткім.

Нарадзіла Ліду. А калі дачцэ споўнілася год і два месяцы, памёр муж. Працаваў на рацэ. На чарпалцы. Захварэў на тыфус...

* * *

На маляўнічых прасторах Беларусі-чараўніцы вёсачка Дабужа ўяўляецца мне таёмным тупіком. Каля яе — некалькі лясных азёраў. Па сёння плюхаюцца ў іх самы, шчупакі, ліні, плоткі, карасі, акуні. У кіламетры ад паселішча — рака Бярэзіна, у якой некалі намачыў боты і згубіў нарабаванае золата Напалеон-ваяўнік.

Вакол Дабужы — сакавітыя лугавіны, грыбныя баравіны, ягадныя паляны. Тут на дубе заўжды мосціцца і ладзіць радзіны бусел. У балотных абшарах водзяцца ваўкі. Над Дабужай самае высокае і самае зорнае неба.

Пра Дабужу запомніў маміны байкі, аповяды. Яна любіла расказваць, як да іх аднойчы завітаў польскі атрад, як замежнікі "пшэкалі" і фанабэрыліся, як грызіліся застацца ў дабужанцаў на векі вечныя. Але вельмі хутка ўзялі ногі пад пахі і далі драла ў сваю хваленую Польшчу.

Гэта, як разумею цяпер, была польская акупацыя, якую распачаў пасля рэвалюцыі "начальнік дзяржавы" Юзаф Пілсудскі.

У Дабужу наведваюся і цяпер.

Атрымалася так, што мая сястра Люба выскачыла замуж за дабужанца Івана Корбута. От мы з Мамай першымі і завіталі да маладажонаў. Запомніў гасціванне па рыбе. На стале яна была і смажаная, і сушаная, і вяленая, і вараная. А яшчэ запомнілася, што Дабужа — самая маленькая вёска ў свеце. У ёй і цяпер сем хатаў.

У Дабужы, дзе Мама спазнала першыя роды, бываў і бываю. А найбольш запомніліся адны нечаканыя госці.

У хуткім часе, як сястру Любу звезлі ў замужжа, я падгаварыў Жэньку Сыцько, мы з ім толькі што скончылі па аднаму класу, і, нікому не сказаўшы, рванулі ў Дабужу, у госці да маёй сястры Любы. А гэта дарога — па лясах, балотах, палетках. Дарога ажно ў дзесяць кіламетраў.

І што ж вы думаеце: прыйшлі, знайшлі патрэбную хаціну. А Люба, помню, не абрадавалася, пачала плакаць, божкаць. Яна адна ведала, як перажывае цяпер Мама, як бегае і шукае свайго Валодзьку па ўсіх Шоўкавічах.

Позна вечарам Мама прыбегла ў Дабужу. Абшчаперыла мяне і наўзрыд плакала. У маёй душы і цяпер адгукаюцца яе трывожныя воклічы: "Сыночак!.. Любенькі!.. А чаму ж не сказаў, куды пойдзеш?.. Родненькі, напужаў да смерці..."

Я і цяпер нашу віну і думаю, можа, Мама з-за мяне так доўга хварэла перад смерцю. На ўсялякі выпадак, хрышчуся, прашу ў яе прабачэння. А ўсіх малых, заклінаю: ніколі-ніколі не крыўдзіце сваіх матуль!..

---

Працяг.
Пачатак у № 29—30.

## ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА



Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

### СОМ

Вось прысніўся саму
Дзіўны сон:
Падарылі яму
Парасон.

Сом глядзеў,
Акуляры надзеў:
Эх, шкада,
Што ў вадзе
Дождж не йдзе!

### БУДАЎНІКІ

Каля сцяжынкі —
Мурашынае шашы —
Будуюць дом
Шматпавярховы
Мурашы.
Так дзень за днём
Яны шчыруюць
Ад душы,
Бо мурашы
Не хочуць жыць
У шалашы.

## КРЫЖАВАНКА
## «ПЕРАКЛАДЗІ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 4. Праздник. 8. Впечатление. 9. Чудо. 10. Освящение. 11. Вкус. 12. Магазин. 14. Священный огонь. 15. Статья. 18. Роща. 19. Восход. 21. Июль. 22. Вдохновение. 23. Кисть (анат.). 25. Рассвет. 29. Кисть. 33. Квартира. 34. Усталость. 36. Фрукты. 37. Красота. 38. Нежность. 39. Вопрос.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Встреча. 2. Черёмуха. 3. Общение. 5. Ужин. 6. Оттенок. 7. Прелесть. 11. Современник. 13. Совесть. 16. Дарование. 17. Горсть. 18. Торговля. 20. Охрана. 24. Сообразительность. 26. Ограда. 27. Церковный праздник. 28. Снимок. 30. Гвоздь. 31. Штабель. 32. Земляника. 34. Жажда. 35. Укроп.**

**Склала Любоў ЮНАВА.**

## ЗАГАДКІ

**На слупах бялёных шапкі зялёныя.** (Бярозы)

**З хаты ў хату водзіць, а сама не заходзіць.** (Дарога)

**Цяпло прыйдзе — апранаецца, холад настане — распранаецца.** (Дрэва)

**Корміць, корміць, а сама есці не просіць.** (Зямля)

**Два разы родзіцца, а раз памірае.** (Курыца)

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

**Сярожа са шкадаваннем:**

**— Варта толькі ката пакрыўдзіць, як з яго адразу царапнасць вылазіць.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1427.
Падпісана да друку 02.08.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.